• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

11 чэрвеня 1996 г.
аўторак, № 145 —146
(22948 —22949)



# ЗВЯЗДА

—Розгалас—

## «КОКА-КОЛА» МАЕ НАМЕР АСТАЛЯВАЦЦА Ў БЕЛАРУСІ

**На прыёме ў Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага 7 чэрвеня пабываў паўнамоцны прадстаўнік кампаніі «Кока-Кола» ў Беларусі Уорэн Грамаер.**

Ён паведаміў аб намерах сваёй фірмы размясціць у Беларусі базавую вытворчасць безалкагольных напояў, накшталт тых, што існуюць ужо ў 192 краінах свету. І прасіў у спікера падтрымкі і садзейнічання ў рэалізацыі гэтай задумы, растлумачыўшы, што па правілах «Кока-Колы», у адрозненне ад іншых прадпрымальнікаў, усё неабходнае для сваіх прадпрыемстваў — абсталяванне, транспарт, тару і гэтак далей кампанія набывае менавіта ў той краіне, дзе яна ўсталёўваецца.

З нашай рэспублікай кампанія «Кока-Кола» паспела ўжо ўстанавіць самыя лепшыя адносіны. Аб гэтым сведчаць перш за ўсё растучыя аб'ёмы рэалізацыі яе прадукцыі. Калі, скажам, у 1994 годзе ў Беларусі было прададзена 830 тысяч скрынак напояў маркі «Кока-Кола», то ў 1995-м — ужо каля 4 мільёнаў, пры гэтым у бюджэт рэспублікі ў выглядзе падатку заплачана 1 мільён 300 тысяч долараў. Сёлета прадугледжваецца павялічыць аб'ём продажу вядомых напояў да 10 мільёнаў скрынак.

Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі запэўніў прадстаўніка кампаніі «Кока-Кола» ў тым, што з боку беларускай дзяржавы заўсёды будуць аказвацца падтрымка і дапамога ўсім замежным прадпрымальнікам, якія прыбываюць да нас з намерамі штосьці ствараць і будаваць. Пры гэтым ён выказаў падзяку ўсёй кампаніі «Кока-Кола» за вялікую спонсарскую дапамогу, аказаную алімпійскай зборнай камандзе Беларусі.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## ЭКСПЕРТЫ КАНСТАТУЮЦЬ: ГІБЕЛЬ АМЕРЫКАНСКІХ ПАВЕТРАПЛАВАЛЬНІКАЎ ЗВЯЗАНА З НЕКАЛЬКІМІ ФАКТАРАМІ

**Закончылася расследаванне абставінаў інцыдэнту, у выніку якога быў збіты паветраны шар і загінулі двое амерыканскіх грамадзян. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Пасольства ЗША ў Беларусі, міжнародная камісія, што расследуе прычыны здарэння, якое адбылося ў верасні 1995 года, прадставіла афіцыйнае заключэнне ў Міжнародную арганізацыю грамадзянскай авіяцыі.**

У заключэнні канстатуецца, што прычынай трагедыі сталі некалькі фактараў. Адным з іх з'яўляецца недастаткова поўнае выкананне органамі грамадзянскай авіяцыі Беларусі працэдур, устаноўленых для афармлення заявак на палёты. Эксперты таксама ўказалі на памылкі, дапушчаныя беларускімі Узброенымі Сіламі, што датычаць ідэнтыфікацыі і класіфікацыі паветранага шара як лётнага сродку. У дакуменце, акрамя таго, адзначаецца, што не былі прыняты адпаведныя захады для ўстанаўлення кантакту з людзьмі, якія пілатавалі паветраны шар.

Міжнародная камісія дае канкрэтныя рэкамендацыі арганізатарам спаборніцтваў паветраных шароў па павышэнню гатоўнасці каманд паветраплавальнікаў да такіх спаборніцтваў, якія ў ходзе палёту павінны падтрымліваць прамы радыёкантакт з адпаведнымі наземнымі службамі.

**БЕЛТА.**



**Мінскі дворык.** Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## БАНКАМ ДАДЗЕНА «ДАБРО» НА ГАНДАЛЬ ВАЛЮТАЙ. З ПРЭМІЯЙ І ЗБОРАМ

Як наша газета ўжо паведамляла, у рэспубліцы з'явілася пяць банкаў, якія атрымалі права ад Нацбанка прадаваць валюту насельніцтву выходзячы за межы «валютнага калідора». Адна справа — добра гэта ці дрэнна ставіць банкі ў нераўназначныя ўмовы па рабоце з цвёрдаканверсоўнай, і іншая — наколькі гэта палепшыць «кругазварот» валюты. Адказныя асобы Нацбанка мяркуюць, што ўвядзенне дылінгавай прэміі і дылінгавага збору (памер складае 13—15 працэнтаў), дазволіць банкам «выкінуць» у продаж валюту, якую яны прытрымлівалі да «лепшых» часоў. Адзінае, аб чым хацелася б даць інфармацыю чытачам, дык гэта аб той пяцёрцы банкаў, абменныя пункты якіх цяпер павінны прадаваць валюту па запатрабаванню кліентаў. Такім чынам, гэта «Белзнешэканомбанк», «Белаграпрамбанк», «Белпрамбудбанк», «Пріор» і ААБ «Беларусбанк». Дарэчы, у тым выпадку, калі адзін з гэтых банкаў адмовіць вам у продажы валюты, можна паскардзіцца ў Нацбанк, і меры будуць прыняты...

**Ігар ГРЫШЫН.**

НАДВОР'Е

## ДАЖЫВЁМ ДА НАСТУПНАГА ПАНЯДЗЕЛКА. МОЖА, ПАШАНЦУЕ З ДАЖДЖАМІ?

**Спякота, якой так доўга чакалі, калі ішлі дажджы, відаць па ўсім, пачынае злоўжываць сваімі тэрмінамі. Бадай, больш за ўсіх гэта на сабе адчулі вяскоўцы: апошнім часам ім прыходзіцца рэгулярна палівадь свае гароды.**

Гарачае сонца робіць сваю справу — к вечару расліны, якія сядзяць у сухой зямлі, паспяваюць добра падвянуць. Карацей, турбот гэтая спякота жыхарам вёсак дадала. Аднак, калі справа не зменіцца да лепшага, іх з'явіцца яшчэ больш. І, падобна, у бліжэйшыя дні так яно і будзе.

Мы звязаліся з намеснікам начальніка ўпраўлення земляробства Міністэрства сельскай гаспадаркі Мікалаем Галубоўскім. Як паведаміў карэспандэнту газеты Мікалай Іванавіч, у бліжэйшай перспектыве, гэта значыць на гэтым тыдні, па прагнозах Белгідрамета, ападкаў у рэспубліцы не чакаецца. Хоць спад спёкі і будзе: тэмпература ўпадзе прыкладна да 21—22 градусаў. Праўда, гэта мала супакойвае спецыялістаў. Не сакрэт, што далейшы «перабой» з забеспячэннем зямлі вільгаццю пагражае нам у хуткім будучым недаборам зерня. Ужо сёння шэраг рэгіёнаў выгараюць. Што датычыцца збожжавых, то яны ў поўнай меры зведваюць на сабе згубнасць сонечных прамянёў. Цалкам верагодна, што спякота зробіць зерне дробным. Святлом у канцы тунеля для жыхароў Брэста, Пружан і Верхнядзвінска сталі ападкі, якія там прайшлі. Аднак іх колькасць наўрад ці зможа задаволіць патрабавальныя культуры: так, напрыклад, у Брэсце ападкі склалі ўсяго 18 мм, у Пружанах — 9 мм. Мабыць, не вельмі пашанцавала і бульбе. Яе самаадчуванне нармальнае, але сонечнае надвор'е як ніколі зараз спрыяе шкоднікам: на палях з'явілася шмат каларадскіх жукоў.

Спецыялісты, вядома ж, разумеюць усю экстрэмальнасць такога становішча. У Гомельскую вобласць выязджае група спецыялістаў Міністэрства сельскай гаспадаркі, вучоныя, каб на месцы разабрацца ў сітуацыі, зрабіць пэўныя высновы. Зусім не выключаецца і той факт, што, каб зберагчы сёлетні ўраджай, спатрэбіцца і грашовая дапамога дзяржавы.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

ДРАЗДЫ: ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# ЦІ НЕ БУДУЦЬ ІЗНОЎ НА КАСЦЯХ АХВЯР ФАШЫСЦКАГА КАНЦЛАГЕРА АРАЦЬ ЗЯМЛЮ, СЕЯЦЬ ЖЫТА?..



**Удзельнікі раскопах пахавання ў Драздах, паблізу так званай Кайдасавай гары, знаходзяць усё новыя і новыя сведчанні, якія пераканаўча ілюструюць усю жудаснасць і трагедыйнасць далёкіх падзей.**





— Ужо можна дакладна, без усялякіх, лічы што, памылак, — заўважае адзін з кіраўнікоў раскопак, вядучы спецыяліст упраўлення па ўвекавечанню памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь Мікалай Церабянок, — сцвярджаць, хто ляжыць у гэтай зямлі. Тут, у траншэі, ёсць і пагранічнікі. А пераважная ж большасць ахвяр — ваеннапалонныя і мірныя жыхары Мінска.

Дарэчы, яшчэ ў 1994 годзе ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны аддзелам гісторыі партызанскага руху была распрацавана грунтоўная навуковая даведка «Фашысцкі лагер у Драздах».

Ёсць у ёй, у прыватнасці, і такое сведчанне: «Жыхарка пасёлка Драздэ Марыя Мікалаеўна Мілеўская была сведкай таго, як у першай палове ліпеня 1941 г. гітлераўцы прывозілі на машынах на поле саўгаса імя Крупскай савецкіх грамадзян, ставілі іх на край канавы, вырытай яшчэ да вайны для ўкладкі водаправодных труб, расстрэльвалі і адразу ж закопвалі». І далей: «...ужо зусім непаўнацэннымі, не маючымі права на жыццё былі прызнаны фашыстамі хворыя, якія знаходзіліся на лячэнні ў псіхіятрычнай бальніцы Навінкі пад Мінскам.

Супрацоўнікі бальніцы Каланіцкая і Навуменка былі сведкамі знішчэння гітлераўцамі каля 400 хворых. Частка з іх была расстраляна на полі прыкладна ў 800—1000 метрах ад бальніцы, і іх там жа закопвалі. Астатніх гітлераўцы душылі ў лазні, заводзячы іх туды па 30 чалавек. Газ, як паказвалі сведкі, падаваўся ад машыны, пастаўленай побач з лазняй. Атручаных людзей адвозілі ў Драздды і закопвалі на тэрыторыі саўгаса імя Крупскай, хутчэй за ўсё ў той жа траншэі, дзе дагэтуль прынялі смерць многія жыхары Мінска і вязні лагера «Драздды».



За два тыдні праз лагер прайшло 140 тысяч чалавек. У сярэдзіне ліпеня лагер расфарміравалі. Немцы баяліся пагрозы эпідэміі.

Пераважную большасць вязняў перавялі ў Масюкоўшчыну — у шталаг № 352. Дарэчы, у гады фашысцкай акупацыі ў Мінску і яго ваколіцах было створана 9 лагераў смерці. Чаму б не стварыць спецыяльны экскурсійны маршрут па месцах гэтых лагераў? Няўжо мы павінны забывацца...

**«Зязда» ўсё ж спадзяецца, што газету нашу чытаюць і ўлады. Ад іх нераўнадушша ў многім залежыць і тое, ці не будуць мокнуць пад дажджом, ляжаць непахаванымі косці, чарапы ахвяр у Драздах.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб правядзенні дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь**

З мэтай забеспячэння неабходных умоў для рэалізацыі палажэнняў Канстытуцыі і Законаў Рэспублікі Беларусь «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь» па пытаннях дзейнасці вышэйшага заканадаўчага органа і органаў прадстаўнічай улады Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Даручыць Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў дадаткова правесці паўторныя выбары ў акругах, дзе пры правядзенні папярэдніх выбараў не былі выбраны дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, не пазней канца лістапада 1996 года. Рэкамендаваць тэрытарыяльным выбарчым камісіям па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў арганізаваць правядзенне выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў адначасова з давыбарамі дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

2. Прапанаваць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць фінансаванне арганізацыі і правядзення дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь у межах вызначанай бюджэтам сумы ў адпаведнасці з заяўкамі Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

3. Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь, Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, міністэрствам і іншым цэнтральным органам кіравання, адпаведным мясцовым Саветам, выканаўчым камітэтам, сродкам масавай інфармацыі забяспечыць правядзенне арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенню дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў у адпаведнасці з Законамі Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

4. Гэта Пастанова ўступае ў сілу з дня яе апублікавання.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

31 мая 1996 г., г. Мінск. № 339-XIII.

## АНКАЛАГІЧНАЕ СТАНОВІШЧА Ў БЕЛАРУСІ НЕ З ЛЁГКІХ

**Напрыканцы мінулага тыдня ў Мінскім гарадскім анкалагічным дыспансеры адбылася сустрэча галоўнага ўрача ўстановы Віктара Рэбека з медперсаналам і хворымі дыспансера.**

Як канстатуе статыстыка, анкалагічныя захворванні сёння знаходзяцца на 2-м месцы сярод прычын смяротнасці. Па-ранейшаму першае месца сярод анкалагічных захворванняў і па колькасці, і па смяротнасці займае рак лёгкіх. У мінулым годзе было выяўлена больш за 500 такіх хворых, 30 працэнтаў якіх не пражылі нават 12 месяцаў. Другое і трэцяе месца па тых жа крытэрыях адпаведна займаюць рак страўніка і рак малочнай залозы. У апошнія гады медыкам усё часцей і часцей прыходзіцца сутыкацца з запушчанымі формамі хваробы, калі дапамагчы, выратаваць жыццё чалавеку амаль немагчыма. Асноўнымі прычынамі гэтага з'яўляюцца, па-першае, абыякавае стаўленне насельніцтва да ўласнага здароўя (56—57 працэнтаў хворых вельмі позна звяртаюцца па дапамогу), па-другое, скрыты ход хваробы, калі ўрачам цяжка яе выявіць, і, па-трэцяе, урачэбныя памылкі пры пастаноўцы дыягназу, якія складаюць 10 працэнтаў усіх прычын.

На жаль, першасная прафілактыка (ін'екцыя) немагчыма. Такой вакцыны навукоўцы яшчэ не вынайшлі. Застаецца прафілактыка другасная, якая ўключае ў сябе не столькі медыцынскія мерапрыемствы, колькі эканамічныя. Сярод іх і ліквідацыя наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і барацьба з забруджваннем атмасферы, утрыманне канцэрагенных рэчываў у якой даўно перавышае дапушчальны ўзровень, нарэшце, антытунёвая кампанія. У нас, падобных мерапрыемстваў праводзіцца недастаткова. Дзяржаўнай праграмы не існуе. Застаецца прафілактыка медыцынская (пошук асоб павышанай анкалагічнай рызыкі, правядзенне паралельнага анкалагічнага агляду хворых на іншыя хваробы), якая без эканамічных захадаў не можа быць дастаткова эфектыўнай.

Анкалагічная сітуацыя сёння ў Беларусі далёка не спрыяльная. Нягледзячы на тое, што ў апошні час у лячэнні анказахворванняў усё часцей назіраецца станоўчая дынаміка (пры росце колькасці захворванняў смяротнасць ідзе на спад) гаварыць пра агульнае паляпшэнне пакуль рана. Не трэба думаць, што хвароба і смерць дзесьці там, далёка. Жыццё часта падкідвае нам малапрыемныя сюрпрызы. Ці не лепш лішні раз не рызыкаваць і прайсці той жа медыцынскі агляд або кінуць цыгарэту, каб не трапіць у лік 98 працэнтаў курцоў — патэнцыяльных пацыентаў анкадыспансера?

**Сяргей ПРОТАС.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## НА МАЗЕ ПАКУЛЬ УСЁ СПАКОЙНА

**Як мы ўжо паведамлялі раней, спыніўся адзін з самых буйных беларускіх заводаў — вытворчае аб'яднанне «БелаўтаМАЗ». Сітуацыю тлумачыў яго генеральны дырэктар. Нам захацелася паслухаць і другі бок — працоўных. Што і было зроблена.**

У гутарцы з мазаўцамі высветлілася, што зарплату яны атрымлівалі толькі за красавік, дакладней — частку (дзесьці 1/3 ад належнай сумы). Відаць, хутка будуць даваць і астатнія грошы, але калі — невядома. Як жа пражыць у гэткіх умовах? Тым больш, што да канца чэрвеня большая частка працуючых МАЗа адпраўлена ў на 2/3 аплатны водпуск. Калі і раней працавалі па чатыры, а то і па тры дні на тыдзень, то зараз зусім не трэба прыходзіць на завод. «Мы і жадаем папрацаваць, але гэта жаданне, на жаль, нельга задаволіць», — скардзіліся ў гутарцы працуючыя.

Таксама з іх вуснаў прагучалі словы аб безвыходным стане і аб канцы цярпення. Напрыканцы мая мазаўцы ўжо звярталіся са скаргаю ў адміністрацыю прадпрыемства аб нездавальняючай сітуацыі з выплатай заробку. Там паабяцалі задаволіць іх патрабаванні. Але ці ж гэта метад атрымання заробленых грошай?

Пракаменціраваць сітуацыю я папрасіў старшыню прафкома МАЗа Васіля Рыгоравіча Дыбаля. Той адказаў, што добра ведае пра гэтыя праблемы і імкнецца дапамагчы працуючым. На жаль, у сучасных эканамічных умовах не ўсё залежыць ад адміністрацыі, але пэўныя крокі ў напрамку забеспячэння сацыяльных правоў працоўных робяцца. Напрыклад, крыху паднялі стаўку па тарыфах. І заробак за красавік ужо на гэтым тыдні павінны выплаціць, а за май — к канцу чэрвеня. Так што, па словах старшыні мазаўскага прафкома, чуткі аб дрэнных адносінах паміж працуючымі і адміністрацыяй не адпавядаюць рэчаіснасці.

Дай Бог, каб гэтыя словы спраўдзіліся. Бо калі будзе на МАЗе неспакойна, то каму ад гэтага стане лепш?

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## СІТУАЦЫЯ НА МАЗЕ:
### каментарый прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання

***Да размовы з сустаршынёй Асацыяцыі незалежных прафсаюзаў, дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, старшынёй Савета прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання Аляксандрам БУХВОСТАВЫМ нас падштурхнула сітуацыя, што склалася на Мінскім аўтамабільным заводзе.***

**— Аляксандр Іванавіч, якая рэакцыя прафсаюза на прастой, які пачаўся і які, відавочна, расцягнецца не на адзін тыдзень?**

— Тое, што адбываецца на МАЗе, — своеасаблівае люстэрка агульнай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі. На ўсіх прадпрыемствах, чые прафсаюзы аб'яднаны ў нашу асацыяцыю, сітуацыя даволі дрэнная. У Мінску яшчэ, напрыклад, зроблены выплаты заработнай платы за красавік. Але ж, прабачце, ужо за май трэба плаціць. На перыферыі і таго горш — за сакавік выплаты ў памеры мінімальнага пражытачнага мінімуму.

**— І ўсё ж вернемся да МАЗа...**

— Завод спыніўся з-за таго, што зусім няма продажу. Разлікі ажыццяўляліся за кошт бартэру. Наяўных сродкаў не хапала. Як у сітуацыі на МАЗе, так і паўсюдна ў прамысловасці нешта істотна можа змяніцца толькі пасля радыкальных крокаў урада ў сферы эканамічных пераўтварэнняў.

Самі прадпрыемствы не ў стане выбіць плацяжы з Расіі. Там жа, здаецца, усё прыціхла напярэдадні надыходзячых выбараў.

**— Можа што і ў нашай эканоміцы кардынальна зменіцца пасля 16 чэрвеня...**

— Можа што і зменіцца... Але ж і нам нельга марудзіць. Стаіць жа не толькі МАЗ. У Мінску стаіць і завод колавых цягачоў. Зарплата знізілася, калі меркаваць па І кварталу, у нашай галіне на 0,2 працэнта. А мінімальны спажывецкі бюджэт вырас, здаецца, на 13 працэнтаў.

**— Дарэчы, ваш прафсаюз у свой час актыўна змагаўся за наданне зарплаце заканадаўча афармленага статусу першачарговай выплаты...**

— Змагаемся і сёння. Спадзяёмся, што ўсё ж Вярхоўны Савет і вырашыць гэта вельмі важнае для сацыяльнай стабільнасці пытанне. Няўжо нельга дамагчыся своечасовай выплаты хаця б тых 600—700 тысяч рублёў (сярэдняя заработная плата па нашых прадпрыемствах) штомесяц?

**— Ці падтрымліваюць вашы намаганні астатнія прафсаюзныя арганізацыі?**

— Здаецца, апошнім часам прыбавілася рашучасці і ў астатніх прафсаюзаў. Мы правядзілі сумеснае пасяджэнне. І мяркую, што болей актыўнымі, рашучымі атрымаюцца наступныя дыялогі з уладамі.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ТЭЛЕРАДЫЁМАРАФОН СТАРТУЕ Ў БРЭСЦЕ

**22 чэрвеня 1996 года з 10 гадзін на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» пад патранажам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праводзіцца шматгадзінны тэлемарафон, прысвечаны 55-годдзю абароны гэтай гераічнай цытадэлі.**

Менавіта тут у 1941 годзе першымі ўсталі на абарону Айчыны каля васьмі тысяч салдатаў Брэсцкага гарнізона. Асабовы састаў вайсковых часцей быў сфарміраваны з прадстаўнікоў 30 нацыянальнасцей былога Саюза ССР. Сярод іх рускія, украінцы, беларусы, азербайджанцы, адыгейцы, армяне, башкіры, балкарцы, латышы, марыйцы, малдаване, мардвіны, асеціны, удмурты, чачэнцы, чаркесы, палякі, татары, чувашы. Амаль усе яны загінулі на гэтым полі бою.

Вайна заўсёды страшная. Але, відаць, страшней за ўсё яе пачатак: ні пахаваць, ні памянуць. Толькі гэтым можна патлумачыць тое, што пад плітамі мемарыяльнага комплексу спачывае прах 850 салдатаў, а імёны вядомыя толькі 249 з іх.

Мемарыяльны комплекс стаў святыняй як для народаў Беларусі, так і для ўсёй Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Таму чакаецца прыбыццё на тэлерадыёмарафон урадавых дэлегацый дзяржаў Садружнасці, прадстаўнікоў ветэранскіх арганізацый, кіраўнікоў прамысловасці, бізнесу і дзеячаў культуры. Давайце ўспомнім усіх, хто загінуў, нізка паклонімся жывым, дапаможам захаваць помнік мужнасці і гераізму.

Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія «Мір», Нацыянальная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь — арганізатары тэлерадыёмарафону — просяць усіх, хто можа, прыняць спонсарскі ўдзел і пералічыць магчымую суму на адзін з разліковых рахункаў: для беларускіх рублёў — № 3041908961681 КБ»Акадэмбанк» г. Мінска, МФО 153001730 — тэлерадыёкампанія «Мір» з паметкай «Памяць»; для расійскіх рублёў — № 3632275 і ЦКБ «Роскредит», Расія, Масква, к/с 103161900 РКЦ ГУ ЦБ РФ па МО, МФО 044652001 — атрымальнік КБ «Залаты талер» і тэлерадыёкампанія «Мір» з паметкай «Памяць»; для долараў ЗША — ABN AMRO Bank, USA, New-York, k/s 574-0-730661-41, SWIFT ABNAUS 33-КБ «Залаты талер»; для нямецкіх марак-AG Commerzbank, Germany, Frankfurt/M, k/s 4008870065, OBA LEFF-КБ «Залаты талер».

**Тэл. для даведак: Мінск — (072) 236-64-45.**

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб выбранні члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Домаша** Сямёна Мікалаевіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Астрынскай выбарчай акругі № 145 Гродзенскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

5 чэрвеня 1996 г., г.Мінск. № 355-XIII.

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб выбранні члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Саковіча** Васіля Андрэевіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Гарадоцкай выбарчай акругі № 44 Віцебскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

5 чэрвеня 1996 г., г.Мінск. № 356-XIII.

## НАВАЛЬНІЦЫ — ПЕРАШКОДА АГНЮ

Спякотнае надвор'е, якое ўсталявалася апошнім часам, падкінула нямала праблем як дачнікам (з палівам запаветных градак), так і пажарным камандам (з «палівам» ужо вогненнай стыхіі).

Так, як паведамілі ў Галоўным упраўленні ваенізаванай пажарнай службы МУС Рэспублікі Беларусь, толькі за выхадныя ў краіне адбылося 211 пажараў, урон ад якіх склаў 691 млн. рублёў. Агонь знішчыў або пашкодзіў 110 збудаванняў, 7 галоў жывёлы, 47 тон грубых кармоў, 16 адзінак тэхнікі. За гэтыя дні ў полымі загінулі пяць чалавек. На тушэнне лясных і тарфяных пажараў пажарныя падраздзяленні выязджалі 156 разоў. Супакойвае, бадай, толькі тое, што праз дзень у краіне чакаюцца кароткачасовыя навальнічныя дажджы.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**ЕЛЬЦЫН УПЭЎНЕНЫ Ў СВАЁЙ ПЕРАМОЗЕ**

Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын поўнасцю ўпэўнены ў сваёй перамозе ў першым туры выбараў. У інтэрв'ю Ельцын заявіў, што ён забараняе сваёй камандзе займацца падрыхтоўкай да другога тура. Ельцын не выключыў магчымасці некаторых перастановак ва ўрадзе. Па словах прэзідэнта, у выпадку беспарадкаў пасля выбараў ён мае намер дзейнічаць па закону і рашуча. Згодна з сацыялагічным апытаннем, Ельцын можа атрымаць 37 працэнтаў галасоў, у той час як Зюганаў — 25 працэнтаў.

**ПАГАДНЕННЕ АБ СПЫНЕННІ АГНЮ ПАРУШАНА**

У выніку ўчарашняга нападу праіранскай групоўкі «Хэзбалах» на ізраільскі патруль у абвешчанай Ізраілем зоне бяспекі ў Паўднёвым Ліване пяць ізраільскіх вайскоўцаў забіты, шэсць атрымалі раненні. У якасці меры ў адказ ізраільскія войскі і праізраільскае фарміраванне Паўднёвага Лівана падверглі артылерыйскаму абстрэлу раён, які прылягае да зоны бяспекі.

Ізраільскія вайскоўцы ўчора таксама правод зілі вобыскі ў цэнтры Хеўрона пасля таго, як у нядзелю ўвечары двое яўрэйскіх пасяленцаў былі застрэлены з праязджаўшага аўтамабіля. Мяркуюць, што забойства ўчынілі палесцінскія экстрэмісты.

**ІРА САСТУПАЦЬ НЕ ЗБІРАЕЦЦА**

Учора ў другой палове дня пачаліся ўсебаковыя перамовы наконт будучыні Паўночнай Ірландыі — самыя прадстаўнічыя за ўсю гісторыю правядзення гэткіх акцый. Перамовы ў Белфасце, у якіх удзельнічаюць 9 палітычных партый, адкрылі брытанскі і ірландскі прэм'ер-міністры. Ірландскай рэспубліканскай арміі (ІРА) і яе праваму палітычнаму крылу не дазволена прысутнічаць у зале пасяджэнняў датуль, пакуль яны не вернуцца да выканання пагаднення пра неўжыванне зброі. Палітыкі ІРА заяўляюць, што шанцы на выкананне пагаднення мінімальныя. Ва ўсякім разе, ІРА пашле сваіх дэлегатаў на перамовы зыходзячы з таго, што яна набрала 15 працэнтаў галасоў на выбарах кандыдата ад Паўночнай Ірландыі.

**АДНОЎЛЕНЫ ПЕРАМОВЫ ПА ЧАЧНІ**

Расійскі і чачэнскі бакі аднавілі перамовы наконт чачэнскага канфлікту. У хуткім часе чакаецца падпісанне дакумента, які пакладзе канец 18-месячнай вайне ў паўстаўшай рэспубліцы. Перамовы праходзяць у суседняй Інгушэціі. У нядзелю ўдалося дамовіцца пра вывад расійскіх войскаў да канца жніўня, але дагэтуль не ўзгоднены тэрміны выбараў у чачэнскую асамблею, што можа стаць зачэпкай для ўдзельнікаў сённяшніх перамоў.

**ДЗІЦЯЧАЕ РАБСТВА Ў НАШЫ ДНІ**

Міжнародная арганізацыя працы паведаміла, што цяпер у свеце каля 73 мільёнаў дзяцей ва ўзросце ад 10 да 14 гадоў бяруцца наймальнікамі на работу. Каля 19 працэнтаў дзяцей гэтай узроставай групы працуюць у сельскай гаспадарцы і прыслужваюць у сем'ях. Выпадкі дзіцячага рабства выяўлены ў Азіі, Афрыцы, Лацінскай Амерыцы. Назіраецца рост дзіцячай прастытуцыі, таму што кліенты больш упэўнены ў тым, што дзеці яшчэ не заражаны вірусам СНІДу.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## НА ЧАЛЕ БНФ — ВЫКОНВАЮЧЫ АБАВЯЗКІ

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў штабкватэры БНФ, выконваючым абавязкі старшыні руху і партыі БНФ на апошнім сойме выбраны Леанід Баршчэўскі, а в. а. старшыні партыі БНФ па арганізацыйных пытаннях — Юрый Беленькі.

На гэтым жа сойме БНФ даручана стварыць штаб па правядзенню выбарчай кампаніі Зянона Пазняка на асенніх давыбарах у парламент, а таксама вырашана ў ліпені правесці канферэнцыю БНФ.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

## 22 ЧЭРВЕНЯ БНФ ПЛАНУЕ НОВУЮ АКЦЫЮ

БНФ мае намер па-свойму адзначыць 22 чэрвеня — дзень, у які 55 гадоў таму пачалася гітлераўская агрэсія супраць СССР. Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА намеснік старшыні БНФ Станіслаў Гусак, створаны аргкамітэт па правядзенню ў гэты дзень у Мінску акцыі пад назвай «Народ супраць фашызму і таталітарызму ў любой яго форме». У яго саставе больш за 50 чалавек, у тым ліку лідэры некаторых партый, грамадскія дзеячы, прадстаўнікі навукі, культуры. 7 чэрвеня пададзена заяўка ў Мінгарвыканком на правядзенне шэсця і мітынгу.

**БЕЛТА.**

## ПАПРАЎКА

У №№ 143 — 144 газеты «Звязда» ад 8 чэрвеня бягучага года ў адказе на пытанне па працаўладкаванню за мяжой на пятай старонцы ў рубрыцы «Пытальнік» недакладна ўказаны нумар тэлефона ўпраўлення знешняй працоўнай міграцыі Міністэрства працы РБ. Нумар тэлефона ўпраўлення наступны: 23-45-14. Просім прабачэння за непрыемнасці ва ўладальніка раней указанага нумара тэлефона.

*ВЫРАТАВАННЕ*

# ... І Ў ЦЯЖКІХ АБСТАВІНАХ ЛЁС ЗАЛЕЖЫЦЬ УЛАСНА АД ЧАЛАВЕКА

**УВАГА! Працягваецца сумесная акцыя газеты «Звязда» і Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля». Дарагія сябры! Дарагія чытачы! Газета, фонд працягваюць работу па выяўленню і адпраўцы на аздараўленне за мяжу дзяцей, у першую чаргу з глыбінкі, якія атрымалі захворванне ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС і зусім альбо ў апошнія год-два не прайшлі лячэння.**

**Пішыце на адрасы: 220029, г. Мінск, вул. Старавіленская, д. 14, Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» альбо 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, д. 10а, «Звязда».**

Пазаўчора «звяздоўцы», Генадзь і Ірына Грушавыя наведаліся ў Валожын. Да Тэрэзы Іванаўны Сліжык. Яе балючы ліст «Звязда» надрукавала некалькі дзён таму. Прыехалі мы на вуліцу Міру гарачым надвячоркам. Не адразу, праўда, знайшлі патрэбны дом, патрэбную кватэру. Яно і зразумела, Валожын усё ж такі горад. Не вёска, дзе кожны пра кожнага, лічы, усё ведае. Але і ў Валожыне, ды і пасля, на зваротнай дарозе, падумалася вось пра што. Пяцёра дзяцей — і для Беларусі вялікая сям'я. Мнагадзетная сям'я. Хто ведае ў Валожыне яе адрас? Райвыканком? Магчыма, часта наведваюцца са школы, дзе вучацца старэйшыя дзеці — Саша і Наташа? Мо і з работы (да дэкрэтнага водпуску Тэрэза Іванаўна працавала ў пашпартным стале) забягаюць раз у паўгода? Ды не. Неяк аказалі матэрыяльную дапамогу ў памеры дзвюх мінімальных зарплат. Сёлета і на такую падтрымку Тэрэза Іванаўна не спадзяецца.

Як выжывае сям'я, дзе сёння галоўнай праблемай застаецца пракарміць сябе? Як размеркаваць той мільён (а ў маі іх, Сліжыкаў, бюджэт гэтую лічбу і не перавысіў)? Тэрэза Іванаўна мае невялікі агарод у горадзе. А недзе кіламетраў за 10 ад Валожына — сціплае лецішча. Бульба, агародніна, кампоты, усякія ўласныя нарыхтоўкі ў значнай ступені і ратуюць, дапамагаюць выжыць.

— Малодшанькія вельмі любяць салодкае, — з горкай усмешкай гаворыць Тэрэза Іванаўна.

Так, любяць. Мы бачылі, як Ваня і Вова ўпляталі цукеркі. З якім задавальненнем ласаваліся апельсінамі і бананамі, прывезенымі Генадзем і Ірынай Грушавымі. Маючы мільён на пяцярых дзетак, ці часта можна самім набыць тыя апельсіны і бананы? Тэрэза Іванаўна перажывае, што малакроўе ў малодшанькіх якраз і з-за харчавання. Неяк — што чуць было асабліва горка — Тэрэза Іванаўна (відаць, сама баючыся таго, што сказала), заўважыла: відаць, саграшыла, што нарадзіла дваіх апошніх хлопчыкаў. Балюча маці такое гаварыць. А яшчэ ж і веруючай. Днямі Тэрэза Іванаўна разам з чатырохгадовай Машай хадзіла ў касцёл. Хадзіла, каб ушанаваць свята. І вось — «відаць, саграшыла...»

Словы трыццацідзевяцігадовай маці падштурхнулі да наступных разваг. Дзяржава губіць мнагадзетныя сем'і. Адсутнічае ўсялякае спрыянне ім. Калі і ёсць якія заканадаўчыя акты аб дапамозе мнагадзетным сем'ям, то зараз яны не выконваюцца зусім. Прыклад валожынскіх Сліжыкаў гэтаму яскравае пацвярджэнне.

Што зрабілі «Звязда» і БДФ «Дзецям Чарнобыля»? Мы аказалі падтрымку: Тэрэзе Іванаўне перададзены 2 мільёны рублёў. Генадзь Уладзіміравіч Грушавы паабяцаў, што старэйшыя — Саша і Наташа — сёлета абавязкова паедуць на аздараўленне за мяжу. Рашэнне фактычна ўжо прынята. Зроблены першы практычны крок акцыі «Выратаванне».

І, безумоўна, крок гэты зроблены ў дачыненні да тых людзей, хто і сам здольны рухацца. Насустрач, да вырашэння сваіх жа клопатаў, пайшлі тыя, хто выпісвае, чытае «Звязду». Са «Звяздой» на другое паўгоддзе застаецца і сям'я Сліжыкаў. А іншым разам у рэдакцыю званяць і гавораць прыблізна наступнае: «Куды гэта я трапіў... Мне сказалі, што па гэтым тэлефоне адпраўляюць на аздараўленне...» Людзі, пачуўшы недзе тэлефон, не абцяжарваюць сябе тым, каб узяць у рукі газету, прачытаць хаця б тыя радкі ў «Звяздзе», якія падштурхоўваюць, падказваюць, якім чынам паклапаціцца пра аздараўленне.

Уразіў і ўчарашні званок з Хойнікаў. З райвыканкома. Званіў чалавек, які па пасадзе сваёй звязаны з пытаннямі аздараўлення. Высветліўшы пасаду карэспандэнта, на другім канцы провада патлумачылі, што хочуць вырашыць пытанне з адпраўкай групы дзяцей. Доўга давялося тлумачыць, што мы чакаем персанальных лістоў, зваротаў ад кожнай сям'і паасобку. А ў адказ на тое, што і пісалі гэта мы не аднойчы ў «Звяздзе», з Хойнікаў заўважылі: маўляў, гэта ў вас у горадзе ёсць усе газеты, а ў нас...

«Звязду» найперш чытае глыбінка. А ў Хойніках... У Хойніках чыноўнікам «Звязду» знайсці, мусіць, цяжка. Так, цяжка падпісацца на газету. Цяжка знайсці патрэбны яе нумар у бібліятэцы. Цяжка напісаць ліст пра сваю ўласную праблему. Цяжка пастаяць за сябе самога. Відаць, нашмат лягчэй узяць ды папрасіць (часам гэта гучыць як патрабаванне!), каб адправілі дзіця ў Італію!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



# ПОМСТА

**У Магілёве пачаў працаваць кабінет ананімнага абследавання на СНІД і на сіфіліс. Чаму ананімнага?**

Ананімна я даведаўся, што хваробы гэтыя прагрэсіруюць так, што статыстыцы за імі не ўгнацца. 2000 афіцыйных сіфілітыкаў летась — гэта ж аб нечым гаворыць. У скурвенералагічны дыспансер — чарга, чаго не было, бадай, з гадоў грамадзянскай вайны ў пачатку стагоддзя.

На Магілёўшчыне выяўлена 16 «снідыкаў» — другое месца ў рэспубліцы. Ёсць разбэшчанасць, ёсць тое, што адносяць да выпадковых сувязей. Але я раскажу пра выпадак, калі заражаюць наўмысна. Дзіка, тым не менш, — факт. Гэта зноў жа да пытання аб ананімнасці. І да статыстыкі, якая не ўсё ведае.

Клікуха ў яе была Змяя. Кажуць, з часоў дачнага буму. Насця (гэтае і іншыя імёны зменены — **В. Л.)** не сваім голасам закрычала, калі ўбачыла чатырохгадовую дачушку з вужом у руках:

— Змяя! Ратуйце!

І кінулася ўцякаць.

Дзяўчынка ж накіравалася да таты, які пілаваў нешта за хатай, і з дзіцячай непасрэднасцю ціха сказала:

—Тат, а я чарвяка знайшла. Паглядзі, які вялікі-вялікі...

Гэтай сям'і цяпер няма. У падрабязнасці разладу ўнікаць я не буду, і вуж, вядома, тут ні пры чым.

А Насцю з таго часу так і завуць: Змяя.

Віктар, яе муж, працаваў шафёрам і дома часта адсутнічаў. Дарэчы, і дачу, стары зруб, ён напытаў недзе ў камандзіроўцы і прывалок на сваёй абшарпанай «Калхідзе» на ўчастак.

Напаткаў ён тады не толькі зруб, але і сваю былую каханку. Гавораць, што жыццё — гэта суцэльны ланцуг недарэчнасцей. Віктар вёз на дачу свае бярвенні, на дарозе прагаласавала жанчына, аказалася — першая любоў.

Увогуле гісторыя трывіяльная. Сябравалі ў школе, цалаваліся на выпускным, юнака прызвалі ў армію, яна абяцала чакаць. Чакаюць у шчымлівых раманах, у жыцці — рэдка.

Галя выйшла замуж.

Віктар ажаніўся таксама.

Чужыя людзі.

Трэба ж — праз дваццаць гадоў сустрэліся.

Доктар, які расказваў мне пра гэтую ашаламляльную калізію, у душу Галіны не лез. Калі яна прыйшла на прыём (ананімны) і ён, па звычцы, спытаў пра сувязі, Галіна Аляксандраўна адказала:

— Я вінаватая перад ім. Не дачакалася. Таму і дазволіла.

А Віктар? Ён пра сваю хваробу зусім не ведаў. Па той простай прычыне, што ніякіх такіх бацыл тады яшчэ не было. Інфекцыя ўзнікла потым, калі зноў закаханым стала цяжка хавацца.

Цяпер, чытач, калі ў цябе слабыя нервы, адкінь газету. Сябе выяўляе Змяя.

Віктар — мужычок ён слабенькі, гэта толькі назва, што моцны пол, — перайшоў жыць да Галіны. Але і з Насцяй не парываў. Балазе, яна яго прывячала, быццам нічога і не адбылося.

Галя была настаўніцай, Насця — медыцынскай сястрой.

У Насці выспеў план помсты (вось жа фантазія ў жанчыны), да якога не падбярэш ні аднаго артыкула Крымінальнага ці Грамадзянскага кодэксу.

Насця вырашыла захварэць. На сіфіліс. І такім чынам зняславіць саперніцу. Праз мужа. Як праз перадатачнае звяно.

Што вы думаеце, вар'яцкая ідэя ажыццявілася. Не была б Насця медработнікам са стажам.

Тыдняў праз сем Насця пазваніла Галіне і спытала:

— Мой у цябе? Дурніца, схадзі да ўрача. Я ўжо схапіла.

Галя кінулася да ўрача — так і ёсць. Пагаварыць з Галінай мне ўдалося, хаця на процілеглы пол яна не можа глядзець. Ад выгляду мужыка яе пачынае нудзіць.

Вінаватая яна ці не? Не ведаю. Гэта яе жыццё, і не нам распараджацца чымсьці лёсам. Пытанне ж ёсць. Хоць бы і ананімнае.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

*КРЫК ДУШЫ*

# БОЛЬШ ЗА ЎСЁ НЕПАКОІЦЬ ЛЁС СЫНА

Паважаная рэдакцыя! Напісаць вам прымусіла гора. У мяне цяпер цяжкае становішча. Я разышлася з другім мужам, які піў, біў мяне. Засталася з трыма дзецьмі. Старэйшага сына ўжо год як не стала: ён загінуў. Не ведаю, як і перажыла гэтае няшчасце. Сярэдні служыць у арміі, а малодшы знаходзіцца са мной.

Я ўцякла ад мужа, каб застацца жывой (шмат разоў ён пагражаў мне, што заб'е). Да гэтага часу жыла ў в. Топкае, потым у в. Собалі. Прытуліла мяне ў г. п. Краснаполле бабка, удзельніца Вялікай Айчыннай вайны, цяпер інвалід І групы. Я паабяцала ёй дапамагаць, даглядаць яе, толькі б спаць спакойна. Але маё ранейшае жыццё пакінула не лепшыя адбіткі, ды яшчэ плюс павышаная радыяцыя ў нашай вёсцы. Я стала хварэць, ляжала ў бальніцы, хворы і мой малодшы сын: у яго нізкі ціск.

Нам патрэбны хоць бы адзін пакой, дзе мы змаглі б спакойна жыць, таму што хворыя ўсім дакучаюць. Я звярталася да свайго раённага начальства, каб выдзелілі мне такі пакойчык, аддала ўсе патрэбныя дакументы. Але мяне толькі водзяць за нос, кормяць абяцанкамі. А мае рэчы ўжо амаль год ляжаць неразабраныя ў вузлах... Майму сыну таксама трэба недзе падлячыцца. Хадзіла ў РАНА, мне сказалі, што групы дзяцей для лячэння ўжо набраны.

Я толькі два тыдні як пачала працаваць, а так стаяла на біржы працы. Сама я круглая сірата, выхоўвалася ў дзіцячым доме. Ехаць мне ў іншае месца няма куды і няма за што. Больш за ўсё непакоіць будучыня майго малодшага сына. Спадзяюся, што вы апублікуеце гэта пісьмо і дапаможаце мне ў маім цяжкім становішчы, у якім я апынулася.

**З павагай Ніна ЦЫС.**

*г. п. Краснаполле.*

# МЯЖА ЯК КРЫНІЦА ПРЫБЫТКУ

**Не толькі дадатковыя клопаты прыносіць адміністрацыям заходніх раёнаў Віцебскай вобласці дзяржаўная мяжа з Латвіяй і Літвой. Тут вырашылі, што яе можна выкарыстаць для папаўнення мясцовых бюджэтаў. Уведзены спецыяльны збор за паркоўку транспарту замежных дзяржаў. Ад яго вызваляецца толькі транспарт Беларусі і Расіі.**

Першымі паглядзелі на мяжу як на крыніцу прыбытку ў Верхнядзвінскім раёне. Яшчэ ў студзені мінулага года тут было вырашана браць за ўезд на тэрыторыю раёна замежнай легкавой аўтамашыны 5 долараў, грузавой ці аўтобуса — 10 долараў. За год у мясцовы бюджэт паступіла два мільярды рублёў. Выкарыстоўваліся гэтыя сродкі найперш для добраўпарадкавання месцаў стаянак аўтатранспарту, паляпшэння дарог. Але нейкая частка іх пайшла і на будаўніцтва могілак, на вугаль для школ раёна.

3 мая 1995 года бяруць мясцовы збор і за ўезд на тэрыторыю Браслаўскага раёна. За легкавы аўтамабіль таксама пяць долараў, а за грузавыя і аўтобусы ў залежнасці ад памераў — ад 10 да 30 долараў. Прайшоўшы год прынёс раёну прыбытак у памеры 100 тысяч долараў.

А вось у Паставах толькі ў маі гэтага года сесія раённага Савета прыняла рашэнне аб зборы за паркоўку. Напэўна, каб наверстаць упушчанае, тут за легкавы аўтамабіль бяруць 10 долараў, за аўтобус і грузавую аўтамашыну — 20.

Сумы збору адчувальныя для тых жа ўладальнікаў асабістага транспарту. Існуюць, праўда, некаторыя льготы. Вызваляюцца ад уплаты збору дыпламаты, інваліды вайны. Не бярэцца ён у выпадках перавозкі нябожчыка, калі блізкая радня едзе на хаўтуры. Не плацяць за паркоўку асобы, якія прыязджаюць на Беларусь да бацькоў — інвалідаў вайны.

Але ў свой час у Літву і Латвію выехала шмат моладзі. І цяпер для іх наведванне бацькоў на Беларусі звязана з дадатковымі тратамі.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

# НЯМА ТРАНСПАРТУ — НЯМА ПРАБЛЕМЫ?

**Так ужо склаўся лёс (горкая іронія гэтых слоў стане зразумелай чытачам крыху пазней), што апошні год, каб дабрацца з дому на работу і наадварот, даводзіцца карыстацца аўтобусным маршрутам № 20. Дванаццаць месяцаў — тэрмін даволі значны, каб сцвярджаць: калі б хто задаўся мэтай скласці пералік вытанчаных здзекаў над пасажырамі, вышэйназваны маршрут грамадскага транспарту, безумоўна, заняў бы ў ім пачэснае месца лідэра. Але ўсё па парадку.**

Неабходна зазначыць, што на шляху руху дваццатага маршруту да дыспетчарскай станцыі «Ангарская-3» (або побач з ёй) размешчаны Мінскі трактарны завод, славутая «Крыніца», завод шампанскіх він, ПТВ, ды і да МАЗа рукой падаць. У цэнтр — да Акадэміі навук — таксама народу едзе шмат. Словам, адсутнасць пасажыраў гэтаму напрамку ніколі не пагражала, асабліва ў гадзіны «пік». Цяпер аб галоўным.

Спазненні аўтобусаў — кветачкі (дзе яны зараз рухаюцца дакладна?), але іх адсутнасць на прыпынках увечары па гадзіне, паўтары і нават больш?!. А потым, нібы здзекуючыся, нарэшце можа падысці «кароткі» «Ікарус», у які спрабуюць улезці знерваваныя і раздражнёныя дзесяткі людзей! На прыпынку каля Акадэміі навук нярэдка можна назіраць і большыя натоўпы. Уявіце, што потым творыцца падчас руху ў салоне. Абарваныя гузікі на адзенні, лаянка, скаргі і ледзь не высвятленне адносінаў — справа, якая ўжо стала звыклай. Неаднаразовыя спробы высвятліць па тэлефоне 46-86-22 дыспетчарскай станцыі «Ангарская-3» у чым, уласна кажучы, справа, канкрэтных вынікаў не далі. Маўляў, не ад нас гэта залежыць. Ад каго тады, шаноўныя? Тым больш, што аўтобусы № 26 і № 92, якія часткова спыняюцца на тых жа прыпынках, што і «дваццатка», ходзяць нібы добры гадзіннік, прычым звычайна ездзяць машыны з «гармонікам». А між іншым, належаць яны аднаму і таму ж аўтобуснаму парку № 6. Туды, у рэшце рэшт, і звярнуўся карэспандэнт «Звязды».

— Дваццаць шосты і дзевяноста другі маршруты абслугоўвае трэцяя калона, дваццаты — другая, акрамя таго па 3 машыны штодзённа на гэты маршрут выдзяляе і трэцяя калона, — паведаміў начальнік аддзела пасажырскіх перавозак Валерый Самойлаў. — Каля 70 працэнтаў аўтобусаў патрабуюць спісання, бывае, машыны па паўгода стаяць у рамонце. Усё гэта расхалоджвае людзей і, зразумела, дысцыпліна падае. Прыкладна адна дзесятая ўсіх парушэнняў звязана менавіта з ёй. Да таго ж 60—70 працэнтаў усіх працуючых складае моладзь, якая, здараецца, займаецца «крадзяжом кругоў» — калі вадзіцель адзначае па рацыі на тэхнічным прыпынку сваю наяўнасць на маршруце, а потым едзе на аўтобусе па сваіх справах. Такія выпадкі жорстка караюцца.

Зразумела, транспартнікам зараз нялёгка. Але, на мой погляд, тут праблема не столькі матэрыяльнага і тэхнічнага плана, колькі маральнага. Для дзецюкоў, якія катаюцца ў кабіне па двое, гэта не работа, а вясёлая прагулка. Чаго тады здзіўляцца, калі, прыехаўшы на прыпынак праз дзве гадзіны пасля апошняй машыны, такі «каўбой» парожні (!) зухавата коціць далей па свае «кругі»? Чым займаюцца дыспетчары, чаму не могуць арганізаваць выхад аўтобусаў на маршруты? Цікава, ці стаяў хто-небудзь з іх на прыпынку пад дажджом або ў мароз гадзіну-паўтары?

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ УНЯСЕННІ ДАПАЎНЕННЯЎ У ПАРАДАК ДНЯ ПЕРШАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ТРЫНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Уключыць у парадак дня першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання наступныя пытанні:

1. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь».
2. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай пошліне».
3. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці».
4. Аб стварэнні Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца ў час і пасля падзей 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў горадзе Мінску.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**
31 мая 1996 г., г. Мінск. № 337-XIII.

### АБ НАЗВЕ НАСЕЛЕНАГА ПУНКТА НА ТЭРЫТОРЫІ БЫЛОГА ВАЕННАГА ГАРАДКА № 20 АРШАНСКАГА РАЁНА ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ І АДНЯСЕННІ ЯГО ДА СЕЛЬСКІХ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Прысвоіць населенаму пункту на тэрыторыі былога ваеннага гарадка № 20 Аршанскага раёна Віцебскай вобласці назву пасёлак Балбасава і аднесці яго да сельскіх населеных пунктаў.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**
29 мая 1996 г., г. Мінск. № 328-XIII.

### АБ РАТЫФІКАЦЫІ ПАГАДНЕННЯ ПАМІЖ УРАДАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І МІЖНАРОДНАЙ ФЕДЭРАЦЫЯЙ ТАВАРЫСТВАЎ ЧЫРВОНАГА КРЫЖА І ЧЫРВОНАГА ПАЎМЕСЯЦА АБ СТАТУСЕ ПРАДСТАЎНІЦТВА МІЖНАРОДНАЙ ФЕДЭРАЦЫІ ТАВАРЫСТВАЎ ЧЫРВОНАГА КРЫЖА І ЧЫРВОНАГА ПАЎМЕСЯЦА Ў РЭСПУБІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Міжнароднай Федэрацыяй Таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца аб статусе Прадстаўніцтва Міжнароднай Федэрацыі Таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца ў Рэспубліцы Беларусь, падпісанае 5 жніўня 1995 года ў горадзе Мінску.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
16 мая 1996 г., г.Мінск. № 294-XIII

### АБ РАТЫФІКАЦЫІ ПАГАДНЕННЯ АБ НАВУКОВЫМ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ УРАДАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫЯЙ ПА САДЗЕЙНІЧАННЮ СУПРАЦОЎНІЦТВУ З ВУЧОНЫМІ НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЗЯРЖАЎ БЫЛОГА СССР

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Ратыфікаваць Пагадненне аб навуковым супрацоўніцтве паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Міжнароднай асацыяцыяй па садзейнічанню супрацоўніцтву з вучонымі незалежных дзяржаў былога СССР.
2. Даручыць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь ажыццявіць неабходныя меры па выкананню дадзенай Пастановы.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
17 мая 1996 г., г. Мінск. № 302-XIII

### АБ РАТЫФІКАЦЫІ ПАГАДНЕННЯ АБ СТВАРЭННІ МІЖДЗЯРЖАЎНАГА ЕЎРААЗІЯЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ВУГАЛЮ І МЕТАЛУ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Ратыфікаваць Пагадненне аб стварэнні міждзяржаўнага Еўраазіяцкага аб'яднання вугалю і металу, падпісанае ў г. Маскве 24 верасня 1993 года, з наступнай агаворкай па артыкулу 5:

«Рэспубліка Беларусь будзе разглядаць рашэнні органаў кіравання Аб'яднання як рэкамендацыі».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
17 мая 1996 г., г.Мінск. № 304-XIII

### АБ РАТЫФІКАЦЫІ ПАГАДНЕННЯ ПАМІЖ УРАДАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І УРАДАМ СІРЫЙСКАЙ АРАБСКАЙ РЭСПУБЛІКІ АБ ПАВЕТРАНЫХ ЗНОСІНАХ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Сірыйскай Арабскай Рэспублікі аб паветраных зносінах, падпісанае ў г.Дамаску 15 кастрычніка 1995 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
24 мая 1996 г., г.Мінск. № 320-XIII

### АБ РАТЫФІКАЦЫІ ПАГАДНЕННЯ ПАМІЖ УРАДАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І УРАДАМ РЭСПУБЛІКІ АРМЕНІЯ АБ ПАВЕТРАНЫХ ЗНОСІНАХ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Рэспублікі Арменія аб паветраных зносінах, падпісанае ў г. Ерэване 16 лістапада 1995 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
24 мая 1996 г., г.Мінск.
№ 321-XIII

## Пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ ГАРНАСТАЯ П. У. ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую працу і значны асабісты ўклад у справу аховы здароўя насельніцтва вобласці ўзнагародзіць галоўнага хірурга ўпраўлення аховы здароўя Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта **Гарнастая** Пятра Уладзіміравіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**
3 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 347-XIII.

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ КАРСЕКІ Р. М. ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую навукова-педагагічную дзейнасць, важкі асабісты ўклад у падрыхтоўку высокакваліфікаваных спецыялістаў для народнай гаспадаркі рэспублікі ўзнагародзіць рэктара Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта **Карсеку** Рамана Міхайлавіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**
3 чэрвеня 1996 г., г. Мінск № 348-XIII.

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ МІЛЬКОТЫ А. А. ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую працу і значны асабісты ўклад у развіццё жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэспублікі ўзнагародзіць першага намесніка міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь **Мількоту** Аляксандра Аляксандравіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**
3 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 350-XIII.

### АБ УЗНАГАРОДЖАННІ САЎЧЫКА М. У. ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За значны ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё раёна ўзнагародзіць старшыню Мазырскага раённага выканаўчага камітэта **Саўчыка** Міхаіла Уладзіміравіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**
3 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 351-XIII.

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў прапанову Міністэрства сацыяльнай абароны аб стварэнні пры ім міжведамаснай рабочай групы па пошуках і вяртанню на Радзіму ваеннаслужачых — грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія прапалі без вестак у Рэспубліцы Афганістан, у саставе прадстаўнікоў Мінсацабароны, Мінабароны, МУС, МЗС, Мінфіна, КДБ, Дзяржкамдруку, Рэспубліканскага таварыства Чырвонага Крыжа, Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сіл і праваахоўных органаў Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане.

Кіраўнікам названых цэнтральных органаў кіравання і грамадскіх аб'яднанняў згодна з прынятым распараджэннем неабходна выдзеліць сваіх прадстаўнікоў і забяспечыць іх удзел у рабоце гэтай групы.

Мінсацабароны даручана зацвердзіць персанальны і колькасны састаў групы, забяспечыць яе актыўную работу, аб выніках дзейнасці групы да 30 снежня 1996 года праінфармаваць Кабінет Міністраў.

Прызнана страціўшым сілу распараджэнне Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 1992 г. № 781р.

* * *

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь даручыў Міністэрству адукацыі і навукі ва ўстаноўленым парадку зацвердзіць Палажэнне аб каардынацыйных саветах па прыярытэтных напрамках навукова-тэхнічнай дзейнасці міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання.

* * *

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў прапанову Міністэрства знешніх эканамічных сувязей, узгодненую з Міністэрствам замежных спраў і Міністэрствам юстыцыі аб заключэнні пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь і Чэшскай Рэспублікай аб садзейнічанні ажыццяўленню і ўзаемнай абароне інвестыцый.

На падпісанне гэтага пагаднення ўпаўнаважаны міністр знешніх эканамічных сувязей Міхаіл Марыніч.

**БЕЛТА.**

*САЦЫЯЛОГІЯ*

# БЕЛАРУСЬ І РАСІЯ: ЯК ЖЫВЁМ, ТАК І ДУМАЕМ

Беларускі інстытут інфармацыі і прагнозу пастаянна даследуе блок пытанняў, прысвечаных праблемам адносінаў Беларусі да краін блізкага і далёкага замежжа. Калі гаварыць аб асноўных геапалітычных вывадах шматгадовых даследаванняў і агульнарэспубліканскага рэферэндуму, то яны адназначныя — насельніцтва Беларусі выступае за цесны саюз з Расіяй і іншымі краінамі СНД.

У кастрычніку 1990 года, як паказалі вынікі першага этапа сацыялагічнага маніторынгу, толькі 12 працэнтаў насельніцтва Беларускай ССР падтрымлівала выхад рэспублікі з саставу СССР.

У маі 1993 года арыентацыю рэспублікі на Захад падтрымала 6,8 працэнта насельніцтва. Народ Беларусі не верыў, што толькі з дапамогай заходніх краін можна вырашыць усе праблемы, і выбраў «усходні вектар». Нейтралітэт рэспублікі, па версіі былога спікера краіны С. Шушкевіча падтрымлівала толькі чвэрць (25,3 працэнта) насельніцтва Беларусі. Пераважная большасць жыхароў Беларусі была ўпэўнена ў тым, што суверэнітэт, які яны звязалі з распадам Савецкага Саюза, стаў асноўнай прычынай рэзкага зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

Як паказалі два рэспубліканскія рэферэндумы, сацыялагічныя даследаванні, палітычная, эканамічная, культурная арыентацыя жыхароў Беларусі на Расію даволі істотная. Тры гады таму 61,8 працэнта насельніцтва рэспублікі адназначна выказаліся за ўмацаванне эканамічнага, палітычнага і ваеннага супрацоўніцтва з Расіяй і іншымі краінамі СНД; 63,1 працэнта падтрымалі далучэнне Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы. Гэтую тэндэнцыю поўнасцю пацвердзілі і вынікі сацыялагічных даследаванняў 1995 і 1996 гадоў.

Асаблівую цікавасць уяўляюць і адказы на пытанні анкеты красавіцкага (1996 года) этапа сацыялагічнага маніторынгу. Толькі пятая частка насельніцтва Беларусі (22,7 працэнта) цяпер лічыць, што Белавежскія пагадненні былі неабходныя. Прычым такога пункту гледжання прытрымліваюцца 26,8 працэнта апытаных рабочых і 24,4 працэнта сялян, 12,6 працэнта пенсіянераў, 36,0 працэнта прадпрымальнікаў і бізнесменаў, 38,6 працэнта студэнтаў і навучэнцаў, 33,3 працэнта беспрацоўных; 23,1 працэнта жыхароў краіны з вышэйшай і незакончанай вышэйшай адукацыяй, 13,1 працэнта — з пачатковай і няпоўнай сярэдняй адукацыяй; 23,5 працэнта жыхароў горада, 21,1 працэнта — жыхароў вёсак; 24,8 працэнта — мужчын, 20,8 працэнта — жанчын; 41,5 працэнта — маладых людзей ва ўзросце ад 16 да 20 гадоў, 10,9 працэнта — пажылых людзей ва ўзросце старэй за 60 гадоў. У той жа час значна больш людзей (54,7 працэнта) лічыць, што Белавежскія пагадненні не былі неабходнымі. Яны перакананы ў тым, што менавіта Белавежскія пагадненні знішчылі раней магутную дзяржаву — Савецкі Саюз, спіхнулі Беларусь у бездань, зрабілі іх жабракамі.

Прычым, як паказваюць вынікі сацыялагічных даследаванняў, больш за палову (57,4 працэнта) жыхароў Беларусі на магчымым рэферэндуме выказаліся б за аднаўленне Саюза ССР. Найбольш негатыўна да аднаўлення Саюза ССР ставяцца прадпрымальнікі і бізнесмены. 72,0 працэнта прадстаўнікоў гэтай сацыяльнай групы гатовы прагаласаваць «супраць». 41,5 працэнта маладых людзей ва ўзросце ад 16 да 20 гадоў таксама выступаюць супраць аднаўлення Саюза ССР. А ў цэлым на магчымым рэферэндуме супраць аднаўлення былой саюзнай дзяржавы гатова галасаваць толькі пятая частка жыхароў Беларусі.

Больш за дзве трэці насельніцтва Беларусі ў красавіку патрабавалі ад сваіх выбраннікаў — дэпутатаў Вярхоўнага Савета адобрыць (ратыфікаваць) дагавор аб паглыбленай інтэграцыі Беларусі і Расіі. І толькі 10,2 працэнта жыхароў Беларусі выказаліся супраць гэтага. Аднак узнікае пытанне: як павінна адбывацца інтэграцыя Беларусі і Расіі? Палова жыхароў Беларусі выступае за паступовую інтэграцыю народаў, сцвярджае, што трэба ўлічваць тэмпы палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага развіцця дзяржаў, сацыяльна-палітычную сітуацыю ў беларускім і расійскім грамадстве. Чвэрць насельніцтва Беларусі выступілі за хуткую інтэграцыю нашых краін.

Значны ўплыў на развіццё сацыяльна-палітычнай і эканамічнай сітуацыі аказваюць палітычныя лідэры. Станаўленне дзяржаўнасці і шматпартыйнасці ў рэспубліцы вылучыла ў апошнія гады на вядучыя ролі цэлы шэраг новых палітычных фігур.

У сацыялагічнай анкеце маніторынгу пытанне аб палітычных лідэрах гучала наступным чынам: «Калі ў бліжэйшы час адбыліся б выбары Прэзідэнта Беларусі, за каго б вы прагаласавалі?»

На думку жыхароў Беларусі, палітычным лідэрам краіны з'яўляецца Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Так лічыць амаль трэць насельніцтва Беларусі. На другім і трэцім месцах у рэйтынгу папулярнасці знаходзяцца лідэры апазіцыі Станіслаў Багданкевіч і Зянон Пазняк.

У час маніторынгу жыхары Беларусі паспрабавалі спрагназіраваць вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Расіі. На думку жыхароў Беларусі, у другі тур расійскіх выбараў выйдуць Б. Ельцын і Г. Зюганаў. За іх прагаласуюць адпаведна 46,9 працэнта і 28,0 працэнта грамадзян Расіі.

Асаблівую цікавасць уяўляюць адказы на пытанне сацыялагічнай анкеты: «Калі б сёння выбіраўся Прэзідэнт ССР або СНД, за каго з названых палітыкаў вы прагаласавалі б?» Выбар жыхароў нашай рэспублікі наступны:

*1. А. Лукашэнка — 37,4 працэнта*
*2. Б. Ельцын — 16,7 працэнта*
*3. Г. Зюганаў — 7,9 працэнта*
*4. Г. Яўлінскі — 6,8 працэнта*
*5. Н. Назарбаеў — 6,5 працэнта*
*6. В. Чарнамырдзін — 6,1 працэнта*
*7. М. Гарбачоў — 4,1 працэнта*
*8. Я. Гайдар — 2,5 працэнта*
*9. Э. Шэварднадзе — 1,6 працэнта*
*10. Л. Кучма — 1,3 працэнта.*

У грамадстве ўжо склаліся пэўныя стэрэатыпы кіраўнікоў, палітыкаў краіны, адных народ памятае і падтрымлівае, а другіх хацеў бы забыць. Адны пакінулі ў палітыцы яркі след, другія ж — толькі цяжкія ўспаміны. Адны кіраўнікі-палітыкі паднялі краіну з калень, другія спіхнулі яе ў бездань, трэція — разарвалі на кавалкі. Вось як адказалі жыхары Беларусі на пытанне: «Якога тыпу палітык мог бы сёння вывесці рэспублікі былога Саюза ў крызісу?»:

*1. Ю. Андропаў — 30,4 працэнта*
*2. І. Сталін — 17,6 працэнта*
*3. Б. Ельцын — 12,7 працэнта*
*4. У. Ленін — 10,3 працэнта*
*5. М. Гарбачоў — 4,2 працэнта*
*6. Л. Брэжнеў — 3,9 працэнта*
*7. М. Хрушчоў — 3,1 працэнта*

Аналіз адказаў на гэтае пытанне дае вельмі цікавую інфармацыю для роздуму. Напрыклад, чаму ў рэйтынгу папулярнасці студэнтаў і навучэнцаў на першым месцы знаходзіцца Іосіф Сталін? Яго падтрымліваюць 31,4 працэнта прадстаўнікоў гэтай сацыяльнай групы. Чаму ў Леаніда Брэжнева самы высокі рэйтынг сярод сялян? Існуе шэраг іншых пытанняў.

Некаторыя палітыкі заявілі, што «беларускі народ хворы, дурны, ён нічога не разумее». Гэта зусім не так. Народ мае сваю думку, яна ім выпакутавана ў цяперашнім складаным жыцці. І палітыкам вельмі важна выкарыстоўваць думку народа ў сваёй штодзённай дзейнасці.

**Ігар КАТЛЯРОЎ,**
**доктар сацыялагічных навук, прафесар.**

## У камісіях Вярхоўнага Савета

# КАМУ ДАВАЦЬ ЗЯМЛЮ?

Пасля працяглага вывучэння мяркуемых паправах і дапаўненняў ў законапраект аб праве ўласнасці на зямлю на чарговым пасяджэнні парламенцкай Камісіі па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю вёскі дэпутаты прыйшлі да высновы: права прадастаўляць і забіраць зямлю, як і ў першапачатковым варыянце, павінна заставацца прэрагатывай Вярхоўнага і мясцовых Саветаў. У выканаўчай уладзе яны павінны мець такую ж магчымасць.

Заканадаўцы закранулі яшчэ адно не менш важнае пытанне, якое датычыцца правоў інвестараў, як беларускіх, так і замежных, — набыццё ў прыватную ўласнасць ці ў арэнду асобных зямельных участкаў па мэтаваму прызначэнню. Было вырашана, што прыярытэт у гэтым плане трэба аддаваць праектам, якія маюць вялікае сацыяльна-эканамічнае значэнне для Беларусі. Іх пералік будзе складаць Кабінет Міністраў, а зацвярджаць Вярхоўны Савет.

Развіццю сельскай гаспадаркі Беларусі, яе сучаснаму кіраванню, замацаванню розных формаў уласнасці, на думку заканадаўцаў, будзе садзейнічаць таксама і закон аб сельскагаспадарчай кааперацыі, праект якога знаходзіцца ў працэсе падрыхтоўкі.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

# КІРМАШ



## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

**№ 21 (40)**


НВП "Феліз"
(генеральная ліцензія №13 от 12.07.1994г.)
афіцыйны дылер АО УАЗ
рэалізуе са стаянкі у Мінску:




УАЗ-31512..(469)
УАЗ-31514..(люкс)
УАЗ-3303...(бартавы)
УАЗ-31512-027(паулюкс)
УАЗ-3962..........(санітарны)
УАЗ-2206............(мікроаутобус)




ВАЗ-21053
ВАЗ-2121"Тайга"

Выбар аутамабіля кліентам.
100%-камплектацыя аутатэхнікі.
Усе аутамабілі праходзяць поуную прадпродажную падрыхтоуку на СТА.
Выдаецца поуны пакет дакументау (уключая транзітныя нумары) для рэгістрацыі у ДАІ усіх краін СНД.

САМЫЯ ВЫГАДНЫЯ УМОВЫ!
САМЫЯ НІЗКІЯ ЦЭНЫ!

Тэл. (0172) 325-323
тэл./факс (0172) 393-027
Паслугі пасрэднікау аплачваюцца

Згубленае пасведчанне ўдзельніка ВАВ № 862832 серыі Е, выдадзенае на імя Юдзіна Сцяпана Іларыёнавіча, лічыць несапраўдным.

**АГРОТЕХПРОМ**
РЕАЛИЗУЕТ:

- магнитные пускатели (0—6 вел.);
- автоматические выключатели серии АЕ, А, ВА, АП, АК (1-1000 А);
- шкафы управления, рубильники, ящики распределительные, щитки;
- лампы ДРЛ, ПЖ, ЛБ, МО, накаливание 25—200 Вт, стартеры, светильники ПСХ, ЛПО, НСП и др.;
- контакторы КТ (160—630 А);
- реле ПРТЛ, РТТ, РПУ, ТРН;
- провод, кабель (ПВ, АПВ, АВВГ, ВПГ, ВВГ, КГ, РК, ТРП и др.);
- электросчетчики 1-ф, 3-ф, выключатели, розетки, вилки, предохранители ПН-2 (100—630 А), НПН-60, пробки бытовые с колодками;
- масляный бытовой обогреватель 0.75 кВт,
- настольный вентилятор-обогреватель и др. электротехническую продукцию.

Т./ф. в Минске (0172) 48-70-79, Т. в Лиде (01561) 2-95-23.

**ПРАДАЁМ**
рухавікі да а/м ГАЗ-24, ГАЗ-53, М-412, М-2141 (1,7 л) і інш. запчасткі
ТЭЛ. (0222) 25-00-00.

*Віншуем нашу дарагую матулю і бабулю Кацярыну Мікалаеўну ЗЕЛЯНКОВУ з днём нараджэння.*

*Спасибо тебе за тепло и за ласку,*
*За скромность и нежность твою,*
*За то, что читала ты в детстве нам сказки,*
*За чуткость, заботу, за песню твою.*
*Дети, внуки.*

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**
**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**
**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | |

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 68-28-71.**

Дарагая, любая жонка, матуля і бабуля БУРДЗЕЙКА Раіса Лаўрэнаўна, віншуем цябе з юбілеем. Няхай жыццё тваё будзе шчаслівым і радасным. Здароўя і дабрабыту табе.
**Муж, дзеці, унукі.**

Сардэчна віншуем з днём нараджэння Санечку БОЛСУН. Жадаем добрага здароўя, поспехаў у вучобе і добрых сяброў.
*г. Гомель.*
**Бабуля, цёця, дзядзя, Дзіма.**

## Васіль ХРОЛ: «Для развіцця рынку нерухомасці неабходна палітычная воля ўладаў»

**Днямі у сталіцы Рэспублікі Беларусь завяршыла сваю работу Нацыянальная канферэнцыя «Нерухомасць Беларусі». Прааналізаваць стан рынку нерухомасці, а таксама развіццё заканадаўчай базы ў гэтай галіне карэспандэнт «Звязды» папрасіў дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прэзідэнта Беларускай асацыяцыі «Нерухомасць» Васіля ХРОЛА.**

— **Васіль Пятровіч, у якім стане зараз знаходзіцца рынак нерухомасці ў нашай краіне? Ці існуюць сур'ёзныя цяжкасці ў яго развіцці і якія, на вашу думку, шляхі іх пераадолення?**

— Так, ва ўмовах існуючага заканадаўства развіццё рынку нерухомасці ў апошні год практычна спынілася. Гэта звязана з некалькімі прычынамі. Папершае, значна знізіліся тэмпы зямельнай рэформы і прыватызацыі дзяржмаёмасці. Калі так будзе працягвацца далей, то працэс перадачы зямельных участкаў і дзяржмаёмасці ў прыватныя рукі зацягнецца на многія дзесяцігоддзі. Па-другое, на рынку нерухомасці існуе вялікая колькасць забарон і абмежаванняў, якія перашкаджаюць яго нармальнай рабоце. Па-трэцяе, адсутнічае эфектыўна працуючая сістэма кіравання нерухомасцю.

Рынак нерухомасці складаецца з трох састаўных: рынкі жылых і нежылых памяшканняў і рынак зямлі.

РЫНАК ЖЫЛЛЯ. Найбольш развіты ў нашай краіне рынак жылых памяшканняў. Гэта звязана з тым, што сёння 62 працэнты жылля знаходзіцца ва ўласнасці грамадзян. Гэты сектар рынку нерухомасці цяпер працуе найбольш паспяхова. Напрыклад: калі колькасць адначасова прапануемых на продаж кватэр у Мінску ў 1990—1991 гадах складала не больш за 5, то сёння пакупнік мае выбар да 700 розных варыянтаў жылля. У сувязі з гэтым павялічыўся і кошт кватэр з 25—35 USD за кв. метр на пачатку 90-х гадоў да 350—400 USD у 1995—1996 гг. Пры гэтым існуе ўстойлівы рост колькасці рыэлтэрскіх структур, якія працуюць стабільна, з 2-3 у 90-м годзе да 60—70 на сённяшні дзень.

Развіццю жыллёвага рынку, у першую чаргу, перашкаджаюць забароны і абмежаванні ў правядзенні здзелак. Забарона на пакупку жылля неграмадзянамі Беларусі толькі пагаршае інвестыцыйны клімат у нашай краіне і прыводзіць да значнага росту колькасці фіктыўных здзелак. Забарона на пакупку жылых памяшканняў жыхарамі адных населеных пунктаў у іншых, пазбаўлена ўсякага разумнага сэнсу. Сёння абодва гэтыя абмежаванні разглядаюцца Канстытуцыйным судом і, я мяркую, у бліжэйшы час яны будуць адменены.

Існуе вялікая праблема, звязаная з дэклараваннем даходаў. Сёння дэкларацыя патрабуецца пры пакупцы нават самай таннай кватэры. Працэдура яе атрымання даволі складаная. А ў выніку — практычна ўсе дамовы аб куплі-продажы афармляюцца па заніжанай вартасці, і дзяржава пазбаўляецца каштоўнай інфармацыі аб рэальных памерах здзелак. Праблемай з'яўляюцца і ўмовы разліку паміж грамадзянамі за жыллё, якія ажыццяўляюцца, як правіла, у свабодна канверсоўнай валюце. А гэта забаронена заканадаўствам Беларусі. У многіх краінах ужо легалізавана права грамадзян выкарыстоўваць цвёрдую валюту для наяўных разлікаў за нерухомасць. Відаць, і нам трэба ісці гэтым шляхам.

РЫНАК НЕЖЫЛЫХ ПАМЯШКАННЯЎ. Што датычыцца рынку нежылых памяшканняў, то, па маіх падліках, у недзяржаўнай уласнасці знаходзіцца не больш за 10 працэнтаў нежылога фонду. Выбар такіх аб'ектаў у свабодным продажы вельмі невялікі. Буйнейшыя рыэлтэрскія кампаніі ў Мінску прапаноўваюць не больш як 50 аб'ектаў, прычым большасць з іх недабудаваныя. Аналагічная сітуацыя і з арэндай нежылога фонду. Пры гэтым вядома, што вялікая колькасць плошчаў дзяржаўных прадпрыемстваў пустуе і робіцца непрыгоднай. Задача прыватызацыі заключаецца ў тым, каб аб'екты нерухомасці з'явіліся ў прыватных руках, а сістэма кіравання нерухомасцю прымушала б уласнікаў, якія неэфектыўна выкарыстоўваюць гэтыя аб'екты, прадаваць іх больш граматным гаспадарам.

РЫНАК ЗЯМЛІ. Найменш развітым сектарам рынку нерухомасці з'яўляецца зямельны рынак. У прыватнай уласнасці сёння знаходзіцца не больш як 5 працэнтаў зямлі. Прычым у адпаведнасці з заканадаўствам зямельныя ўчасткі, якія знаходзяцца ў прыватнай уласнасці, могуць выкарыстоўвацца толькі для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі, для будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома, для садоўніцтва і дачнага будаўніцтва. Суб'ектамі права прыватнай уласнасці на зямлю з'яўляюцца толькі грамадзяне Беларусі. Сітуацыя, калі дом разглядаецца як адзін аб'ект нерухомасці і з ім асобна ажыццяўляюцца здзелкі, а зямельны ўчастак, на якім стаіць дом, — як другі аб'ект нерухомасці, паказала сваю нежыццёвасць на практыцы. У выніку на зямельным рынку здзелак здзяйсняецца вельмі мала. Вельмі негатыўна на інвестыцыйны клімат уплывае немагчымасць продажу зямельных участкаў пры прыватызацыі прадпрыемстваў. Абмежаванні на права прыватнай уласнасці на зямлю носяць не эканамічны, а палітычны характар. Аргументы тых, хто катэгарычна выступае супраць прыватнай уласнасці на зямлю, у аснoўным будуюцца на ідэалагічных пераканаННях. Між тым, развіццё рынку нерухомасці не ўяўляецца без далейшага правядзення зямельнай рэформы. Неабходна дазволіць продаж у прыватную ўласнасць зямель, якія знаходзяцца пад прыватызуемымі аб'ектамі, а таксама зямель, прызначаных для будаўніцтва.

— **Якія значныя перамены могуць назірацца на рынку нерухомасці Беларусі ў сувязі з падпісаннем дагавора аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй?**

— Аб тым, як развіваецца рынак нерухомасці ў Расіі, беларускім рыэлтэрам застаецца толькі марыць. Там ужо прайшла прыватызацыя, як яе назвалі, «паводле Чубайса». Распрацаваны практычна ўсе асновы рынку нерухомасці: прыняты закон аб іпатэцы, закон аб рэгістрацыі правоў на нерухомую маёмасць, адобраны новы Жыллёвы кодэкс, які абараняе правa ўласнасці, і г. д. У цэлым расіяне апярэджваюць нас у агульным развіцці рынку нерухомасці як мінімум на 3 гады. Плюс да ўсяго ў Расіі актыўна развіваецца вялікі рынак нежылых памяшканняў.

Адной з прычын, з-за якой я прагаласаваў за ратыфікацыю нашым парламентам дагавора аб супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Расіяй, паслужыў момант гэтага дагавора, дзе ўказваецца такая норма, як уніфікацыя заканадаўстваў нашых краін. Я мяркую, што калі мы паспяхова уніфікуем наша заканадаўства з расійскім, Беларусь у гэтым выпадку больш хуткімі тэмпамі пойдзе па шляху рэформаў у галіне эканомікі.

— **Якім, на вашу думку, павінна быць кіраванне рынку нерухомасці?**

— ПА-ПЕРШАЕ, неабходна ўкараняць рэгуляванне рынку нерухомасці з дапамогай механізмаў, якія заснаваны на функцыянальным заніраванні тэрыторый. Сёння ўстанаўленне функцыянальнага прызначэння тэрыторый праводзіцца рознымі органамі для розных узаемна не ўзгодненых мэтаў. У выніку сутыкаюцца інтарэсы дзяржавы, мясцовых органаў улады, уласніка нерухомасці і жыхароў населенага пункта. Слабая нарматыўна-прававая база функцыянальнага заніравання тэрыторый не дазваляе вызначыць, чые інтарэсы пры гэтым маюць большыя юрыдычныя падставы. Адсутнічае механізм матэрыяльнай адказнасці уласнікаў нерухомасці за невыкананне мерапрыемстваў па рэалізацыі горадабудаўнічых рашэнняў.

ДРУГІМ НАКІРУНКАМ кіравання нерухомасцю павінна стаць сістэма рэгістрацыі правоў на нерухомую маёмасць. Гэта сістэма павінна надзейна абараняць правы інвестараў. Неабходна ўстанавіць адказнасць органаў рэгістрацыі перад удзельнікамі здзелкі за ўрон, які быў нанесены ў выніку памылковых дзеянняў. Рэгістрацыі павінны падлягаць усе віды правоў на нерухомасць.

ТРЭЦІ НАКІРУНАК — сістэма ацэнкі нерухомасці. Для вызначэння рэальнага кошту аб'ектаў трэба выкарыстоўваць розныя метады ацэнкі. У гэтым выпадку неабходна развіваць паралельна два інстытуты — дзяржаўнай і незалежнай ацэнкі. Дзяржаўная ацэнка можа эфектыўна выкарыстоўвацца для рэгулявання развіцця населеных пунктаў з дапамогай эканамічных рычагоў, а незалежная — для выкарыстання пры іпатэчнай пазыцы, страхаванні нерухомасці, вызначэнні кошту нерухомасці, унесенага ў якасці ўкладу ў статутны фонд юрыдычных асоб і ў іншых выпадках.

ЧАЦВЁРТЫМ НАКІРУНКАМ з'яўляецца сістэма падаткаабкладання нерухомасці. Сёння гэта сістэма рэгулюецца двума законамі: «Аб падатку на нерухомасць» і «Аб плацяжах за зямлю». Гэта сістэма патрабуе карэнных змяненняў. Бо падатак на нерухомасць — больш рэгулюючы падатак, чым фіскальны. Ён з'яўляецца інструментам стымулявання эканамічна эфектыўнага выкарыстання рэсурсаў. Цяпер уласнік, маючы будынак у цэнтры сталіцы, плаціць за гэта мізэрны падатак і ў яго няма ніякага стымула павышаць эфектыўнасць выкарыстання нерухомасці. З увядзеннем новай сістэмы падаткаабкладання нерухомасці ўласнік будзе вымушаны ці сам яе эфектыўна выкарыстоўваць, ці прадаць нерухомасць у больш надзейныя рукі. Такое пераразмеркаванне нерухомасці створыць дадатковыя рабочыя месцы, дазволіць павялічыць даходы бюджэту. Ад падатку на нерухомасць немагчыма ўхіліцца: калі прыбытак можна ўтаіць, то схаваць нерухомасць немагчыма.

Для развіцця пералічаных накірункаў неабходна актыўная скаардынаваная работа вядучых спецыялістаў у галіне рынку нерухомасці. Большасць мяркуемых законаў уключаны ў план работы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на 1996 год.

На маю думку, толькі ў аб'яднанні намаганняў заканадаўчай, выканаўчай уладаў, грамадскіх арганізацый, прадпрымальніцкіх структур мы зможам выпрацаваць новыя прагрэсіўныя рашэнні, накіраваныя на пераадоленне эканамічных і сацыяльных праблем, якія стаяць перад Беларуссю.

**Гутарыў Сяргей КУРКАЧ.**

## ПРАДАЕЦЦА

- Дом драўляны 6х10, участак 0,12 га, малады сад, 4 км ад Барысава ў бок Крупак, 4 км ад чыгункі, побач лес. Тэл. (8-277) 29-8-20.
- Зруб 6х6, прыруб пад веранду (чысты вугал), шыфер, кроквы, танна. Тэл. у Талачыне: (8-02136) 26-6-55.
- Каляска інвалідная, складная, для выкарыстання ў кватэры. Тэл. у Мінску: 234-43-02.
- Аўтамашыну ВАЗ-21011, 1979 г. в. Тэл. (0172) 29-38-80.
- Дом драўляны, 67 кв. м, вадзяное ацяпленне, гарачая вада, каналізацыя, тэлефон, надворныя пастройкі, участак 8,5 соткі,г. Рагачоў, вул. Тэльмана, 52. Тэл. (8-02339) 2-29-12.
- Энцыклапедыя народнай медыцыны (1 том) па атрыманні п/пераводу на 60.000 руб. па адрасу: 231300, г. Ліда, вул. Шубіна, 2а, кв. 15. Тэл. у Лідзе: 2-53-25.
- Камплекты часопісаў: «Вакол свету» за 25 гадоў, 300 экз., «Геаграфія ў школе» — 200 экз., «Прырода і чалавек» за 9 гадоў — 200 экз. Тэл. у Лідзе 2-53-25.
- Памперсы «Fixies» (Германія). Тэл. 220-69-66.
- Новы цагляны дом у пас. Акцябрскі Баранавіцкага раёна, або мяняю на жыллё ў Слоніме. Тэл. у Слоніме (8-01562) 3-22-58.
- Жарабец, узрост 2,5 года, жаробка 1,5 года. Слуцкі раён. Тэл. 77-3-05.
- Дом з гаспадарчымі пабудовамі, 30 сотак зямлі, калодзеж, склеп у в. Пацэвічы Іўеўскага раёна Гродзенскай вобл. Тэл. у Іўі: 3-86-18.
- Матацыкл ММВЗ, прабег 2000 км, цана 200$ па курсу. Тэл. у Мінску: 22-00-47.
- Матацыкл «Днепр-11», прабег 10.000 км, 1991 г. в., нядорага. Тэл.: (0172) 33-02-78, 33-39-27.
- Прыватызаваны зямельны ўчастак 10 сотак, 30 км ад Мінска ў лагойскім напрамку. Тэл. (8-274) 54-3-14.
- Кухонны гарнітур ручной работы, танна. Адрас: 225630, Брэсцкая вобл., Лунінецкі раён, в. Сінкевічы, вул. Камсамольская, 66. ГРУДЗЬКО І. І.
- Новы зруб 4х5 м за 500$. Віцебская вобл., Віцебскі раён, пас. Янавічы, вул. Лёзненская, 29. КАВАЛЁВУ М. П.
- Дом у Барысаўскім раёне, 54 кв. м, 60 сотак зямлі, гаспадарчыя пабудовы. Тэл. 293-41-16.
- Трактар ДТ-75, провад АС-35, АС-50. Тэл. 94-66-17.
- Дом пад знос 7х10 м у Акцябрскім раёне Гомельскай вобл., в. Параслішча, цана дагаворная.Тэл. 4-21-80.
- Прыватызаваны зямельны ўчастак з цагляным домам, дом з цэнтральным ацяпленнем, санвузлом, падвалам (маецца гараж, сад) у в. Новадзевяткавічы Слонімскага раёна. Тэл. (8-262) 91-2-78.

## РОЗНАЕ

- Мяняю УАЗ-31512 на ВАЗ да 5 гадоў альбо прадам. Магчымы варыянты. Тэл. (8-295) 91-2-26.
- Мяняю кватэру ў г. Херсоне на кватэру ў г. Маладзечне. Тэл. у Маладзечне: 7-88-70 пасля 18.00.
- Падрыхтую да школы дзяцей 5—7 гадоў (развіццё памяці, увагі, мыслення). Тэл. у Мінску: 57-01-48 пасля 19.00.

куткі. І раптам правялі межы, паставілі слупы. Вытворцам — хоць каравул крычы. Некалі пра збыт прадукцыі, у тым ліку і за мяжу, дбала Масква. Там жа вырашаліся і пытанні з пастаўкай металічнага лому. А тут адразу ўсё навалілася: і пакупнікоў шукай, і пра сыравіну дбай. І часу, як кажуць вайскоўцы, на тое, каб агледзецца, перагрупавацца, няма: з маршу — у бой.

І калі нямала корду апынулася на складзе, знайшліся гарачыя галовы, якія патрабавалі наогул згарнуць кордавую вытворчасць, ці, прынамсі, у некалькі разоў зменшыць яе аб'ёмы. Ці не прасцей плаціць зарплату, чым працаваць на склад? Але і ў Феакцістава свой характар. Магчыма, з яго дырэктарскага крэсла ўсё ж крыху далей бачна, нейкае шостае пачуццё падказвала: сітуацыя павінна змяніцца. Аўтамабілебудаванне ўвесь час нарошчвае тэмпы. А значыць, не зменшыцца і попыт на металічны корд — аснову шыннай вытворчасці. Важна прабіцца ў Еўропу, даказаць, што беларускі корд не горшы, а лепшы за ўжо вядомы на захадзе. І вырашыць гэта можна адным шляхам: нязменна павышаючы якасць прадукцыі. А тым часам па дарогах Аўстрыі, Германіі, Францыі, Італіі ўжо бегалі машыны з шынамі з беларускага корду. Шматлікія выпрабаванні пацвердзілі: якасць выдатная, пастаўшчык — надзейны. І пасыпаліся кантракты. І калі прадстаўнік вядомай германскай аўтамабілебудаўнічай фірмы «Мерседэс» урачыста ўручыў генеральнаму дырэктару БМЗ шыны сваёй сусветна вядомай маркі, зазначыўшы пры гэтым, што ўжо тысячы супераўто бегаюць на колах з беларускага корду — гэта была найважнейшая ацэнка заслуг жлобінскіх металургаў. Іх прызналі ў Еўропе, з імі размаўляюць як з роўнымі!

Многае сёння залежыць ад чалавека, яго камунікабельнасці, умення размаўляць з людзьмі, прычым на самых розных узроўнях. І калі тут, дома, могуць паблажліва дараваць многае, то там, «за бугром», кожнае слова ловіцца на ляту, самага найменшага праколу не даруюць. Асабліва што датычыцца рынкаў. Там барацьба не на жыццё — на смерць.

З поспехам завяршылася камандзіроўка ў Егіпет. Там ужо нямала пабывала «карабейнікаў», якія рэкламавалі свой тавар. І тады Юрый Васільевіч сам паехаў у краіну далёкага Ніла, узначаліў перамовы. Арабскі рынак вельмі заманлівы. Спярша невялікімі партыямі адпраўлялі туды арматуру. Прадукцыя прыйшлася даспадобы — і аб'ёмы пачалі ўзрастаць. Праявілі цікавасць і да літай загатоўкі. Пастаўкі ў Егіпет павялічыліся да 20 тысяч тон арматуры і прыкладна столькі ж — літай загатоўкі. Аб'ёмы стрымліваліся абмежаванасцю сродкаў. І егіпцяне пайшлі насустрач: выдзелілі каля 7 мільёнаў долараў. У выніку амаль удвая павялічылася адгрузка прадукцыі.

Нямала памятных вехаў у жыцці генеральнага. Не сатрэцца з памяці і дзесяцігадовы юбілей завода, які святкавалі ў кастрычніку 1994 года. Прыехалі прадстаўнікі сусветна вядомай аўстрыйскай фірмы «Фест-Альпіне», што вялі праектаванне і будаўніцтва БМЗ, а таксама італьянскай фірмы «Даніэлі», якая пастаўляла абсталяванне і выступала ў ролі субпадрадчыка. Агледзелі госці завод, прычым прыдзірліва, не горш за самых пільных кантралёраў. Асабліва іх цікавіла арганізацыя вытворчасці, захаванне тэхналагічных працэсаў. А потым, калі ўжо ўсе былі крыху на падпітку, адзін з гасцей не стрымаўся, шапнуў дырэктару:

— Шчыра прызнацца, не чакалі ўбачыць такое. Паміж сабой прыкідвалі, колькі часу спатрэбіцца гэтым братам-славянам, каб канчаткова ўгробіць завод. А вы не проста захавалі ўсё лепшае, што заклалі ў яго праекты будаўнікі, вы далі яму другое жыццё. Гэта асабліва радуе...

А колькі клопату з сацыяльнай сферай! На балансе прадпрыемства дзевяць дзіцячых садкоў, Палац культуры, спартыўны комплекс... І ўсё, ж калі зайшла размова пра будаўніцтва ў Жлобіне храма, Юрый Васільевіч адгукнуўся першым. Прадпрыемства многае зрабіла для таго, каб высока ў неба ўзняліся купалы царквы. І цяпер не абмінае храм, сустракаецца з яго настаяцелем айцом Васіліем. Заслугі дырэктара перад праваслаўнай царквой высока ацаніў патрыярх Алексій II, узнагародзіўшы яго ордэнам.

Імкліва ляціць час. Здаецца, зусім нядаўна атабарыўся тут, у Жлобіне, а ўжо карані пусціў. Вунь унучка школьніцай стала — немалая радасць і шчасце для дзеда. Як ні заняты, але знаходзіць час, каб сустрэцца са сваёй шчабятушкай...

Усяго каля паўгадзіны правёў у кордавым цэху Юрый Васільевіч. А бач ты, ледзь не ўсё свядомае жыццё прамільгнула перад вачыма. Многае прыпомнілася, нават тое, што, здаецца, і быллём парасло. Але такая ўжо ўласцівасць чалавечай памяці, што час ад часу абавязкова вяртае ў мінулае, туды, дзе так шмат было ўсяго: і радаснага, і трывожнага, але такога дарагога і мілага сэрцу.

**Уладзімір ГОЙТАН.**



***На здымках: за спінай у генеральнага сапраўдны феерверк — гэта плавіцца метал; гутаркі з працаўнікамі кордавага цэха заўсёды прыносяць задавальненне, як і ў гэты раз, калі ён гутарыць з машыністамі па навіўцы канатаў Яўгенам Ласко і Надзеяй Ганжа; колькі радасці прыносяць сустрэчы з любімай унучкай Алёнкай; у час гутаркі з настаяцелем храма айцом Васіліем.***

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ**

## НА КАМАРОЎЦЫ З'ЯВІЛІСЯ ЧАРЭШНЯ І... КАВУНЫ

Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска на 07.06.96 г. (тыс. рублёў):

**МЯСА, ПТУШКА (КГ):**
свініна 23—60
цяляціна 26—45
ялавічына 26—50
бараніна 25—40
куры, гусі 29—31.

**САЛА (КГ):**
свежае 20—30
салёнае 25—45.

**МАЛОЧНЫЯ ПРАДУКТЫ:**
малако (л) 4—6
тварог (кг) 18—30
смятана (кг) 20—30
масла (кг) 40—45.
Яйкі (дзес.) 15—16 — хатн./ 9—11,2 — фабрычныя.
Мёд (кг) 60—70.
Алей (л) 12—15.

**КРУПЫ (КГ):**
рыс 9—11
грэчка 8—12.
Цукар 6—7.
Фасоля 11—12.
Гарох 8—13.

**АГАРОДНІНА (КГ):**
бульба 3—5
маладая бульба 20
капуста 18—22
морква 8—15
цыбуля рэпчатая 4—6
цыбуля зялёная 20—35
часнок свежы 18—40
часнок марынаваны 30—40
буракі 5-6
агуркі 18—25
памідоры 26—35.

**САДАВІНА (КГ):**
яблыкі 8—25
бананы 19—20
апельсіны 14—18
клубніцы 20—30
чарэшня 25—35
кавуны 60.

**КВЕТКІ (ШТ.):**
гваздзікі 3—8
ружы 6—25.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## РЭСТАРАН-ЦАЦКА, АЛЕ БЯЗРАДАСНАЯ

Усе мы хоць аднойчы ў жыцці карысталіся паслугамі чыгункі і маем уяўленне аб тутэйшым сервісе. Так, ён у нас сціплы, хоць робяцца спробы яго палепшыць. Паявіліся новыя камфартабельныя вагоны з заходнегерманскага Герліца. А нядаўна славутая «двойка» (маршрут Мінск—Масква) прыняла ў свой састаў вагон-рэстаран — гэта сапраўдны шэдэўр для нашага нераспешчанага камфортам пасажыра, але звычайны з пункту гледжання заходніх уяўленняў аб сервісе.

Так ці інакш, пераабсталяваны ў Рызе за немалыя грошы (70 тысяч долараў) рэстаран незвычайна адрозніваецца ад сваіх шматлікіх сабратоў: раскошны інтэр'ер, характэрнае асвятленне, бар, музыка, падкрэслена ветлівыя афіцыянты... Уражваюць, вядома, і цэны. Ясна, што звычайны пасажыр, якому кроў з носа трэба ў Маскву і які заплаціў двайную цану за «фірменнасць», у такім рэстаране не разгуляецца. Ледзь толькі дарагі сэрцу Мінск застаецца за гарызонтам, як туды накіроўваюцца пасажыры з тугімі кашалькамі — «новыя рускія», «новыя беларусы», мафіёзі... Гуляюць яны шырока, з размахам, і, як яны лічаць, з шыкам. Часам справа заканчваецца разборкамі і бойкамі. Надзвычайных здарэнняў пакуль не было, але былі факты, калі прыходзілася такіх буянаў высаджваць на прамежкавых станцыях (нядаўна, напрыклад, у Оршы).

Чыгуначнаму персаналу нялёгка прыходзіцца пасля такіх сутычак. Бо дзе махаюць кулакамі, там звычайна б'ецца посуд і ламаецца абсталяванне. Але чаго не сцерпіш дзеля «фірмы».

**Уладзімір ВАЛЯНЦІНАЎ.**

## КРАТКАЯ ИНФОРМАЦИЯ
### о подписке на акции 5-го выпуска акционерного коммерческого банка "ДЖЕМ-БАНК"

АКБ "ДЖЕМ-БАНК" является правопреемником АКБ "СЕРВИСБАНК", зарегистрированного в Национальном банке БССР 26.08.91 г., регистрационный №18. АКБ "СЕРВИСБАНК" переименован в АКБ "ДЖЕМ-БАНК" по решению Общего Собрания Акционеров и перерегистрирован в Национальном банке Республики Беларусь 19 сентября 1995 года. По решению Общего Собрания Акционеров от 26 сентября 1995 года банк преобразован в открытое акционерное общество. Изменения зарегистрированы Национальным банком Республики Беларусь 29 сентября 1995 года, и выданы Лицензия на совершение банковских операций №18 от 5.10.95 г. и Генеральная лицензия на совершение банковских операций №22 от 2.10.95 г.

Юридический адрес: 220012, г. Минск, ул. Сурганова, 28.

Почтовый адрес: 220012, г. Минск, ул. Сурганова, 28.

Банк создан в целях развития экономического потенциала Республики Беларусь, формирования в Республике современной банковской и финансовой инфраструктуры, подготовки кадров для банковской системы Республики Беларусь, получения прибыли и выплаты дивидендов акционерам Банка.

Общий размер балансовой прибыли составил в 1995 году — 1.161.000.000 (один миллиард сто шестьдесят один миллион) руб., с 01.01 по -1.06.96 г. — 200.400.000 (двести миллионов четыреста тысяч) руб. Выплаченные дивиденды в 1995 г. составили 147.000.000 (сто сорок семь миллионов) руб.

Объявленный Общим Собранием Акционеров Уставный фонд составляет 29.423.000.000 (двадцать девять миллиардов четыреста двадцать три миллиона) рублей.

Банком были осуществлены четыре выпуска акций, включая 15.741 (пятнадцать тысяч семьсот сорок одну) простую именную и 1.682 (одна тысяча шестьсот восемьдесят две) привилегированные именные акции, на общую сумму 17.423.000.000 (семнадцать миллиардов четыреста двадцать три миллиона) рублей.

Пятый выпуск акций объявляется в целях выполнения установленного Национальным банком Республики Беларусь норматива по формированию Уставного фонда. В связи с этим производится открытая подписка на 10.740 (десять тысяч семьсот сорок) простых и 1.260 (одна тысяча двести шестьдесят) именных привилегированных акций номинальной стоимостью 1.000.000 (один миллион) рублей на общую сумму 12.000.000.000 (двенадцать миллиардов) рублей.

Подписку на акции проводит на основании договора с Банком профессиональный участник рынка ценных бумаг ЗАО "ДЖЕМ-ИНВЕСТ".

**Подписка осуществляется по адресу: г. Минск, ул. Сурганова 28, 5-й этаж, офис 501, с понедельника по пятницу с 9 до 17, тел. (0172) 68-81-68, кроме праздничных дней.**

Подписка на акции Банка проводится в течении 6-ти месяцев с момента опубликования в средствах массовой информации краткой информации о проведении подписки. В случае недостижения или превышения объявленного уровня подписки Общее Собрание Акционеров вправе утвердить фактические результаты подписки.

В течение 30 дней со дня опубликования краткой информации о подписке акционеры Банка имеют право первоочередного приобретения акций.

Оплата приобретаемых акций производится только за счет собственных средств подписчика. Средства в оплату приобретаемых акций перечисляются на счет № 7301000010045 в АКБ "ДЖЕМ-БАНК", код 731. В случаях, предусмотренных законодательством, подписчик предоставляет декларацию об источниках инвестирования и справку финансовых органов о законности происхождения средств, в противном случае в подписке может быть отказано.

Дивиденды по акциям выплачиваются не реже одного раза в год. Размер дивиденда по простым акциям утверждается Общим Собранием Акционеров. Привилегированная акция дает преимущественное право на получение дивидендов и на имущество Банка в случае его ликвидации. Владельцы привилегированных акций не имеют права голоса на Общем Собрании Акционеров.

Исходя из курса доллара США к рублю на момент объявления подписки долларовый эквивалент номинала привилегированных акций 4-го и 5-го выпусков равен 87 долларам США. Размер годового дивиденда по привилегированным акциям объявляется 24% годовых, исходя из долларового эквивалента номинала на момент объявления подписки, с момента регистрации акций.

Дивиденд начисляется и выплачивается в национальной валюте Республики Беларусь по курсу рубля к доллару на момент решения Общего Собрания Акционеров о выплате дивидендов. В случае, если полученная прибыль не обеспечивает возможности выплат дивидендов по привилегированным акциям, они выплачиваются из резервного фонда.

В случае принятия Общим Собранием Акционеров решения об отказе от выпуска акций средства, собранные по подписке, возвращаются в той форме, в которой был сделан взнос. Решение об отказе от выпуска акций доводится до сведения подписчиков через средства массовой информации.

О всех изменениях и дополнениях, вносимых в проспект эмиссии в период подписки, подписчики уведомляются через средства массовой информации. В таком случае подписчики вправе в течение 15 дней после публикации новой информации расторгнуть договор подписки, если полагают, что такие изменения и дополнения могут неблагоприятно сказаться на курсе (стоимости) акций.

**С более подробной информацией о подписке на акции Банка можно ознакомиться по месту проведения подписки.**

Президент АКБ "ДЖЕМ-БАНК" — Дубсон М. Б.
И.о. Главного бухгалтера АКБ "ДЖЕМ-БАНК" — Панько С. С.

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.38 | 21.40 | 16.02 |
| Віцебск – | 4.19 | 21.38 | 17.19 |
| Магілёў – | 4.27 | 21.29 | 16.02 |
| Гомель – | 4.33 | 21.18 | 16.45 |
| Гродна – | 4.54 | 21.54 | 16.00 |
| Брэст – | 5.04 | 21.45 | 16.41 |

### МЕСЯЦ

Апошняя квадра 8 чэрвеня

### ІМЯНІНЫ

Пр. Феадосіі, Іаана, Ісаакія.
К. Барнабы.

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, па ўсходняй палавіне месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 21—23, Мінску, Магілёве — 22—24, Гродне, Гомелі — 23—25, Брэсце — 24—26 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак захаваецца пераменная воблачнасць. 12-га ўдзень і 13-га ўначы месцамі пройдуць дажджы, навальніцы. Тэмпература 12-га ўначы 12—17, удзень — 23—28; 13-га ўначы — 8—13, удзень — 18—23, па паўднёваму ўсходу да 28 градусаў цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 11 ЧЭРВЕНЯ

Надвор'е будзе вызначацца ўначы франтальным раздзелам, удзень — вобласцю павышанага атмасфернага ціску. Чакаецца рост ўтрымання кіслароду ў паветры. У такіх умовах стан метэазалежных хворых палепшыцца, аднак, у гіпертонікаў магчыма пагаршэнне самаадчування. Такім хворым неабходна кантраляваць АЦ, захоўваць ашчадлівы рэжым і рэгулярна прымаць прэпараты, прызначаныя ўрачом.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БЕЛНДІ кардыялогіі.**

# СІМВОЛІКА: РУЦІННАЕ ПЫТАННЕ З ПАЛІТЫЧНЫМ ПАДТЭКСТАМ

ПРЫКЛАДНА праз тыдзень Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыступіць да разгляду, відаць, аднаго з найменшых па аб'ёму законапраектаў: «Аб прызнанні страціўшымі сілу заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь па пытаннях дзяржаўнай сімволікі». Тэкст гэтага законапраекта настолькі малы, што няма ніякіх праблем прывесці яго цалкам: «На падставе рашэння рэспубліканскага рэферэндуму, праведзенага 14 мая 1995 года, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе: прызнаць страціўшымі сілу заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь згодна з прыкладаемым пералікам». Законапраект гэты ўнесены на разгляд парламента Прэзідэнтам А. Лукашэнкам. Ён утрымлівае ў сабе пералік нарматыўных актаў, якія прапануецца прызнаць страціўшымі сілу: пачынаючы ад Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 25 снежня 1951 года «Аб дзяржаўным сцягу БССР», і заканчваючы Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 16 лютага 1995 года «Аб зацвярджэнні ўзораў і апісання пячатак мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь». Прапануецца таксама скасаваць шматлікія дапаўненні да палажэнняў аб гербе і сцягу, прынятыя яшчэ ў савецкі час, а таксама законы ад 19 верасня 1991 года, якія прызнавалі нацыянальную сімволіку (герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг) дзяржаўнай. Такім чынам, прапануецца ўзаконіць першы з пунктаў леташняга рэферэндуму.

Нягледзячы на тое, што названы законапраект сапраўды невялікі па аб'ёму, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і культуры Уладзімір Плецюхоў зазначае, што над гэтым законапраектам іх камісія вельмі шмат працавала. Прэзідэнт накіраваў гэты законапраект у Вярхоўны Савет 9 студзеня гэтага года, у камісію ж ён трапіў у лютым. 14 сакавіка Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і культуры ўнесла прапанову ўключыць гэты законапраект у парадак дня сесіі парламента. Такім чынам, законапраект, што складаецца з аднаго сказа, ужо паўгода разглядаецца ў парламенце. «Гэта толькі здаецца, што тут усё вельмі проста, на самай справе ўзнікае шмат пытанняў, і вы ўбачыце, што пры прыняцці гэтага закона будуць вельмі гарачыя спрэчкі»,— гаворыць Уладзімір Плецюхоў. Камісія ж паспрабавала разабрацца ў некалькіх найважнейшых з пытанняў, якія ўзнікаюць пры вывучэнні прадстаўленага Прэзідэнтам законапраекта.

Па-першае, чаму тут размова ідзе толькі пра скасаванне былой сімволікі і чаму Вярхоўнаму Савету не давяраюць прыняць у законе новую сімволіку? Па-другое, чаму адмяняюцца заканадаўчыя акты, пачынаючы з 1951 года, а не, дапусцім, з 1922-га ці 1991-га, калі была прынята ў якасці дзяржаўнай нацыянальная сімволіка: герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг? Парламентарыі з гэтай камісіі шмат кансультаваліся з юрыстамі па гэтых пытаннях і высветлілі, што Канстытуцыяй зусім не прадугледжана, якім нарматыўным актам павінна прымацца дзяржаўная сімволіка. Таму яны і вырашылі, што адпаведных прэзідэнцкіх указаў наконт Палажэння аб дзяржаўным сцягу і гербе і іх эталонах, заснаваных на выніках леташняга рэферэндуму, з юрыдычнага пункту гледжання цалкам дастаткова.

Такая выснова была зроблена і юрыдычнымі службамі прэзідэнцкай адміністрацыі і парламента, якія зазначылі, што праводзіць новую сімволіку праз Вярхоўны Савет няма ніякай неабходнасці. Тым больш, што пытанне аб сімволіцы на рэферэндуме насіла абавязковы характар. Тым не менш, частка парламентарыяў можа і аспрэчыць такі падыход, запатрабаваўшы магчымасці абмеркавання ў парламенце палажэнняў аб сімволіцы, нейкіх нюансаў колеравай гамы герба і сцяга, але для гэтага патрэбна, каб права на такі разгляд было падмацавана адпаведным рашэннем парламента, у якім зазначалася б, што дзяржаўная сімволіка прымаецца менавіта законам. Пакуль жа такое не прадугледжваецца. І камісіі ВС па заканадаўству і дзяржаўнаму будаўніцтву фактычна падтрымалі такі падыход, не выказаўшы ніякіх прэтэнзій да прапанаванага Прэзідэнтам законапраекта.

Па другому пытанню дэпутаты высветлілі, што да 1951 года заканадаўства адносна сімволікі проста не існавала, дзяржаўная сімволіка апісвалася ў Канстытуцыях, якія ўжо, натуральна, не дзейнічаюць. А калі прымалася новая сімволіка ў 1991 годзе, у законе быў пункт, якім даручалася ўраду падрыхтаваць прапановы аб адмене ранейшых рашэнняў па сімволіцы. Але выкананы ён не быў...І вось цяпер прапануецца адным махам скасаваць усе ранейшыя рашэнні па сімволіцы. Дэпутаты Вярхоўнага Савета, якім ўжо раздалі названы законапраект, пакуль што не ўнеслі ніякіх сваіх дапаўненняў альбо паправак, прынамсі, па стану на 7 чэрвеня.

«З юрыдычнага пункту гледжання прыняцце гэтага законапраекта носіць фармальны, я сказаў бы, руцінны характар. Але паколькі за ім стаіць палітыка, то зразумела, што ён такім не акажацца»,— лічыць старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і культуры Уладзімір Плецюхоў. Ён ужо цяпер разумее, што парламент не адмовіцца ад дэбатаў па гэтым пытанні. На яго думку, праціўнікі гэтага закона будуць даказваць, што новая сімволіка была прынята з парушэннем заканадаўства, яна не з'яўляецца такім чынам легітымнай, а таму нельга і адмяняць старую сімволіку... Па гэтай праблеме ўжо выказаўся дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Віктар Цярэшчанка, які ў сваім адкрытым лісце зазначыў: «Гвалтоўная, незаконная змена сімволікі — недарэчнасць, якую не разумее цэлы свет. Але гэта не ўсё. Для мяне наша гісторыя і сімволіка — гэта абарона правоў чалавека, дэмакратыі, незалежнасці, сацыяльная абарона кожнага жыхара нашай Бацькаўшчыны. Гэта палітыка не жабракоў і нейкіх бездапаможных ахвяр, а палітыка гаспадароў сваёй сутнасці, свайго гасціннага дома, дзе змогуць жыць усе, хто паважае сваё жыллё і клапоціцца пра ягоны дабрабыт... Вярхоўны Савет 19 верасня 1991 года прыняў законы аб дзяржаўных сімвалах Беларусі. Я буду рабіць усё магчымае, каб гэтыя законы былі ўкаранёны ў практыку нашага палітычнага і грамадскага жыцця. Наша гістарычная сімволіка — гэта дух народа Беларусі, увасабленне народных, гістарычных, эстэтычных, маральных каштоўнасцей. Нашы сімвалы — гэта нашы гісторыка-палітычныя святыні. Ганьба тым, хто гэтага не разумее».

Натуральна, што падаграваецца цікавасць да названай праблемы і ў грамадстве. Як вядома, ужо створаны і пачаў сваю дзейнасць Грамадскі камітэт абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі. Тым больш, што апошнія падзеі засведчылі некалькі не зусім прывабных фактаў. У прыватнасці, калі ў людзей, якія выходзілі на вуліцы, з ранейшай, яшчэ не адмененай належным чынам сімволікай, міліцыянеры выхоплівалі з рук іх сцягі і складалі пратаколы. У выніку Міністэрства юстыцыі вынесла папярэджанне Беларускаму народнаму фронту за выкарыстанне «незарэгістраванай» сімволікі ў штаб-кватэры БНФ і на масавых мерапрыемствах. Аналагічнае папярэджанне ад гэтага міністэрства атрымалі таксама Партыя камуністаў, БСДГ, Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, Партыя народнай згоды, Аб'яднаная грамадзянская партыя, якія выкарыстоўвалі альбо ранейшую дзяржаўную сімволіку, альбо свае партыйныя сцягі... Першы намеснік міністра юстыцыі Ігар Андрэеў тлумачыць гэта тым, што ў Беларусі толькі адзін сцяг з'яўляецца дзяржаўным... Ягоную пазіцыю аспрэчвае старшыня дэпутацкай камісіі Першамайскага райсавета г. Мінска па захаванню законнасці, аховы правоў грамадзян, галоснасці і вывучэнню грамадскай думкі Валерый Грыцук, які ў сваім лісце ў «Звязду» зазначае, што ўся сімволіка, якую выкарыстоўваюць БНФ і іншыя арганізацыі, з'яўляецца зарэгістраванай, рэгістрацыя гэта адбылася альбо праз закон, альбо праз рашэнне Мінскага гарадскога Савета...

Чытач «Звязды» Якаў Шмур'еў падыходзіць да гэтай праблемы яшчэ больш канкрэтна: «Рэферэндум — воля народа, яно так, але ж не ўсяго народа. І далёка не ўсяго... І вось за гэты бела-чырвона-белы сцяг ужо цягнуць у міліцыю і складаюць пратакол, а ў адказ гэты сцяг усталёўваюць на заводскай трубе. Дык што гэта робіцца? Што будзе далей? Я прапаную выйсце. Вярхоўны Савет павінен запісаць: гістарычны герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг існуюць як нацыянальныя сімвалы і маюць статус афіцыйных. Няхай паралельна будуць і тыя і другія, а жыццё з цягам часу само які-небудзь выкіне. Гэта многім сэрца супакоіць».

Не думаецца, што падыход, прапанаваны чытачом «Звязды», можа быць нерэальным, ёсць адпаведны прыклад, калі зусім нядаўна, перад святкаваннем Дня Перамогі, Прэзідэнт Лукашэнка сваім указам зацвердзіў афіцыйны статус Сцяга Перамогі і былога Дзяржаўнага сцяга СССР. Такім жа шляхам можна было б пайсці і ў адносінах да бела-чырвона-белага сцяга, які ўпершыню засведчыў у свеце пра незалежную Беларусь, і да чырвона-зялёнага сцяга з сярпом і молатам, які калісьці быў дзяржаўным у БССР. Відаць, у такім разе Мінюсту не трэба будзе рабіць папярэджанні ні БНФ, ні ПКБ за выкарыстанне былой дзяржаўнай сімволікі, і менш работы будзе супрацоўнікам праваахоўных органаў, а людзі атрымаюць магчымасць рэалізаваць сваё законнае права публічна выказваць свае погляды і сімпатыі.

Сапраўды, такі кампрамісны падыход у многім спрыяў бы ўсталяванню кансенсусу ў нашым грамадстве. Гэтую прапанову мы папрасілі пракаменціраваць старшыню пастаяннай Камісіі Вярхоўнага савета па адукацыі, навуцы і культуры Уладзіміра Плецюхова.

— Маё асабістае меркаванне такое, што калі з такой прапановай выходзіць, то трэба весці размову аб статусе не толькі бела-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня», але і ўсіх былых дзяржаўных сімвалаў. Іх у нас, дарэчы, няшмат было. У прынцыпе, гэта цікавая думка. Магчыма, я і падтрымаў бы такі падыход.

На прэс-канферэнцыі пасля вяртання з Амерыкі Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, адказваючы на пытанні журналістаў, зазначыў, што ён не адмаўляе магчымасці прыняцця такога вось кампраміснага рашэння. Але гэта залежыць ужо не толькі ад Старшыні Вярхоўнага Савета, але і ад усяго саставу парламента, а таксама прадстаўнікоў выканаўчай улады, якая і праявіла ініцыятыву адносна сімволікі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*ПАСЛЯ ПАДЗЕІ*

# ... У МОЙ НЯЎМОЛЬНЫ ВЕК УСЛАВІЎ Я СВАБОДУ

**На мінулым тыдні прайшоў II Віцебскі міжнародны фестываль паэзіі, у рамках якога адбылося VIII Пушкінскае свята.**

АПОШНІМ ЧАСАМ у будзённай мітусні мы нячаста ўзгадваем адвечныя «прапісныя» ісціны. Саромеемся альбо лічым іх банальнымі?.. Ці ж не ад гэтага жыццё наша ўсё больш нагадвае «тэатр абсурду», дзе спраўляюць баль хамства і бессаромнасць? Відаць, меў рацыю старажытны грэк, сцвярджаючы: дзе злата мае сілу, там слова бяссільнае...

І ўсё ж... І ўсё ж не ўсё згублена, пакуль чалавек здатны ўзняцца над мітуснёй, пакуль ён стварае, імкнецца абуджаць у сабе самім і ў іншых «пачуцці добрыя». Пра гэта думалася пасля заканчэння Віцебскага фестывалю паэзіі. А яшчэ пра тое, што сапраўднае мастацтва не толькі абуджае і выхоўвае «пачуцці добрыя», але і падтрымлівае чалавека ў гадзіны роспачы і бяды, аб'ядноўвае людзей у дні разладу і раз'яднанасці. Так было, так ёсць і, хочацца спадзявацца, — будзе заўсёды.

У фестывалі ўзялі ўдзел літаратары з Санкт-Пецярбурга і Мінска, Смаленска і Віцебска. Нягледзячы на тое, што паэты жывуць цяпер у розных краінах, Беларусі і Расіі, і маюць розныя палітычныя погляды (не абышлося нават без гарачых спрэчак адносна прэзідэнцкіх выбараў у Расіі), майстроў слова аб'ядноўвала Паэзія.

Сімвалічна, што фестываль адкрыўся 6 чэрвеня, у дзень нараджэння паэта паэтаў Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Увечары каля помніка паэту было мнагалюдна. Тут уладарылі паэзія і музыка. Вершы, прысвечаныя Пушкіну, і вершы Пушкіна. Не толькі на рускай мове, але пераклады на беларускую і нават на асецінскую — у Віцебску жыве асецінскі паэт і перакладчык Аляксандр Пухаеў, які па-каўказску афарыстычна сказаў: «Вялікі чалавек — сын усіх народаў».

Пісьменнік-пушкініст з Санкт-Пецярбурга Сямён Ласкін расказаў пра сваю новую кнігу «Вакол дуэлі», якая ўтрымлівае невядомыя дакументы, цікавую перапіску, якую аўтар змог прааналізаваць і расшыфраваць дзякуючы праўнуку сумна вядомага Дантэса. Столькі гадоў прайшло, столькі напісана мемуараў, раманаў, даследаванняў, але смерць Пушкіна і дагэтуль застаецца загадкай...

Калі слова ўзяў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, усталявалася незвычайная па сваёй унутранай напоўненасці цішыня. Цудоўныя пераклады Барадуліна, вядома, лепш чытаць, а не пераказваць. І ўсё ж адзначу адну дэталь: захопленым шквалам апладысментаў быў сустрэты пераклад верша «Я памятник себе воздвиг нерукотворный...», і асабліва апошнія радкі, якія па-беларуску загучалі так:

*Паклёп і пахвалу прымай з душой рахманай,*
*І спрэчкі з дурнем не ўсчынай.*

Пасля вядомых, масцітых паэтаў да помніка Пушкіну выходзілі самадзейныя паэты. Мікрафон быў «адкрыты», і ўсе жадаючыя мелі магчымасць пачытаць свае вершы. Прыемна, што не было аніякай пампезнасці, панавала камерная сяброўская атмасфера.

— Віцебск — ці не адзіны горад у рэспубліцы, дзе Пушкінскія святы сталі традыцыйнымі. Гэта не выпадкова? — спытала паэта Давіда Сімановіча, арганізатара і натхняльніка фестывалю.

— З 1989 года, калі ў Віцебску быў адкрыты помнік А. С. Пушкіну, тут штогод праходзіць Пушкінскае свята, якое збірае шматлікіх прыхільнікаў паэзіі. Не выпадкова: толькі двойчы — у маі 1820 года і ў жніўні 1824 года — дарогі А. С. Пушкіна пралеглі праз Беларусь, праз Віцебск. Па-рознаму ў розныя гады адклікаліся ў творчасці вялікага паэта гэтыя дарогі, наш край. Адным з правобразаў Дуброўскага стаў віцебскі дваранін Астроўскі. З горадам на Дзвіне звязаны радкі «Палтавы» пра казака, які «на север держит путь». А на старонках «Гісторыі Пятра І» — многія назвы нашых беларускіх гарадоў і вёсак: Мінск, Віцебск, Орша, Дуброўна, Дрыса, Бешанковічы, Копысь, Днепр, Заходняя Дзвіна. Пушкін пісаў аб нараканнях беларусаў — народа, «издревле нам родного», марыў «о временах грядущих, когда народы, распри позабыв, в великую семью соединятся». У «Летапісе жыцця і творчасці А. С. Пушкіна», складзеным вядомым пушкіністам М. Цяўлоўскім, часта — 10 разоў! — упамінаецца Віцебск, а гэта значыць, што горад увайшоў у летапіс яго жыцця, летапіс яго дарог і сустрэч. У мінулым годзе пушкінскае свята расшырылася, стала І Віцебскім міжнародным фестывалем паэзіі. У гэтым годзе свята паэзіі арганізавана сумесна аддзеламі культуры Віцебскага, Полацкага, Наваполацкага гарвыканкомаў і літаратурным цэнтрам абласнога фонду Сораса.

У музычнай гасцёўні Віцебска прайшла сустрэча ўдзельнікаў фестывалю паэзіі з дзеячамі культуры. Адбылася цікавая размова пра праблемы і перспектывы развіцця паэтычнага слова, сувязі літаратур. Нечаканым быў і... абмен «самвыдатаўскім» вопытам. Паэт з Санкт-Пецярбурга, карэспандэнт «Литературной газеты» Ілья Фанякоў расказаў:

— Зараз паэтычнаму слову вельмі складана прыйсці да чытача, прабіцца да друкарскага станка. Выдаць кнігу і раней было складана, а зараз і наогул немагчыма. Трэба шукаць спонсара, які б даў грошы, але ж не кожны можа кідацца на калені перад спонсарам... У апошнія гады многія паэты нашага горада пайшлі па шляху рэальнага самвыдата. Я купіў старэнькі камп'ютэр і раблю маленькія кніжкі вершаў. Дапамагае мне жонка, яна мастачка. Кожная кніжачка мае унікальнае афармленне. Які тыраж — адказаць даволі складана: кніга «сядзіць» у камп'ютэры, і я ў любы момант магу «выцягнуць» невялікую колькасць экземпляраў. Такімі вось хітрыкамі даводзіцца карыстацца... Думаю, ці не наладзіць нам калі-небудзь міжнародны фестываль паэтычнага самвыдата? Гэта было б цікава: слова «самвыдат» зараз напоўнена іншым зместам — раней яно мела палітычнае адценне, з-за яго былі ўсялякія непрыемнасці, нават пасадзіць маглі. Цяпер яно набыло значэнне не палітычнага, а эканамічнага пратэсту.

Драматург Ніна Сямёнава, кіраўнік Смаленскай абласной пісьменніцкай арганізацыі, гаварыла пра немагчымасць раз'ядніння славянскіх народаў. Вядомы беларускі паэт Сяргей Панізнік апавядаў пра беларуска-латышскія творчыя сувязі. Пра месца паэта ў сусветнай іерархіі разважаў Глеб Артханаў з Мінска. Цікавымі былі выступленні віцебскіх літаратараў Алега Салтука, Уладзіміра Папковіча, Барыса Беліжэнкі, Пятра Ламана, Франца Сіўко, іншых.

Паколькі «ў кулуарах» расіянам задавалі шмат пытанняў пра палітычную сітуацыю напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, вядомы паэт Аляксей Мішын (Смаленск) з горыччу адзначыў:

— Сёння прэзідэнтаў на нашых былых агульных землях ужо, мабыць, больш, чым паэтаў. І зараз, перад выбарамі, скажу экспромтам:

*Если б я был президентом*
*Да развел в стране развал,*
*Я бы этим же моментом*
*Пулю в лоб себе послал,*
*На себя направил танки,*
*Грыз бы локти до суда*
*Или мыкался подранком,*
*Или б умер со стыда.*

Паэтычнае слова павінна абуджаць сумленне, дабрыню, пачуццё адказнасці за кожны ўчынак.

Віцебскі паэт і перакладчык Анатоль Канапелька перадаў з універсітэцкай бібліятэкі абласному літаратурнаму музею кнігі з аўтографамі пісьменнікаў-землякоў. Ён прапанаваў аўдыторыі свой паэтычны экспромт:

*Мы — прарокі ў сваёй Айчыне,*
*Хочам шчасця і хочам згоды.*
*Народу без нас немагчыма,*
*Як і нам — без народа.*
*Не былі мы ніколі бязродныя.*
*Поруч з намі прашчураў постаці.*
*Беларусь мая, маці родная,*
*Слухай словы сваіх апосталаў.*

З Віцебска фестываль паэзіі рушыў у Полацк і Наваполацк, дзе да свята слова падключыліся мясцовыя літаратары. У Полацку сустрэча з чытачамі прайшла ў памяшканні музея кнігадрукавання, адбылася зацікаўленая размова з удзелам полацкіх літаратараў Германа Кірылава, Алеся Аркуша, Паўла Нізкоўскага, Надзеі Ярмак, Змітрака Куніцкага, іншых. У Наваполацку сустрэча з чытачамі адбылася ў гарадской бібліятэцы. Дарэчы, усе імпрэзы заканчваліся прэзентацыямі новых кніг удзельнікаў фестывалю. А ў Наваполацку адбылася прэзентацыя кнігі песень старэйшага беларускага кампазітара Мікалая Пятрэнкі (яго песня «Ручнікі» зараз успрымаецца як народная) на вершы паэта Навума Гальпяровіча. Гэта кніга яшчэ раз пацвердзіла, што паняцця «правінцыя» ў дачыненні да творчасці не існуе.

Апошнім месцам дыслакацыі фестывалю стала вёска Бачэйкава Бешанковіцкага раёна — гэтыя мясціны калісьці называлі «беларускім Версалем». Маёнтак Ціханавецкіх славіўся цудоўным паркам, садам, дубравай, прадуманай сістэмай сажалак і каналаў, многімі іншымі батанічнымі і архітэктурнымі цудамі. На жаль, усё гэта захавалася толькі на гравюрах. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў гісторыю Бачэйкава літаральна па крупінках збіраў былы дырэктар мясцовай школы гісторык Міхаіл Васільевіч Петрачэнка. Ён вельмі задаволены, што яго праца не прапала марна: супрацоўнік Віцебскага аддзялення Фонду Сораса Валянціна Кірылава з энтузіязмам узялася за вырашэнне задачы аднаўлення «беларускага Версаля».

Адметна, што праграма фестывалю аб'яднала сённяшні дзень паэзіі і культурную спадчыну мінулага, сучаснасць і памяць.

Уражаннем аб фестывалі паэзіі падзяліўся Рыгор Барадулін.

— Цяпер дужа модна называць падзею «міжнароднай», сабраўшы некалькі чалавек з суседніх абласцей... Але ўвогуле вельмі добра, што была магчымасць сустрэцца паэтам. У літаратуры быў перыяд разгубленасці, але зараз ідзе адраджэнне. Напрыклад, у Наваполацку пабачыў свет альманах «Край», выдадзены на сродкі ахвяравальнікаў. Паэзія далучаецца да новых умоў.

У пачатку было Слова... Старажытны грэк сцвярджаў: дзе злата мае сілу, там слова бяссільнае. Добра, калі б у сённяшні супярэчлівы час мы не падмянялі каштоўнасцей духоўных — матэрыяльнымі. Паэзія дапаможа?..

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

## БРАЧЫСЛАЎ (?—1044) КНЯЗЬ ПОЛАЦКІ



Аб жыцці князя Брачыслава Ізяславіча летапісы пакінулі некалькі радкоў. Вядома, што ў 1021 годзе Брачыслаў заваяваў Ноўгарад. На зваротным шляху ў Полацк ён сустрэўся на рацэ Судоме з войскам кіеўскага князя Яраслава і быў пераможаны. Указвалі летапісы і год смерці Брачыслава — 1044-ы. Амаль палову стагоддзя ўладарыў Брачыслаў у Полацку, і гэты час нам невядомы. Можна толькі здагадвацца, што адбывалася ў гэты перыяд. Гэтак, аналізуючы «Сагу аб Эмундзе», прыходзім да высновы, што ў Полацку была моцная ўлада веча. Брачыслаў па сутнасці з'яўляўся выканаўцам вечавых пастаноў. Веча мела заканадаўчую ўладу, заключала дамовы, слала пасольствы. Менавіта веча прыняло на службу Полацку варажскую дружыну Эмунда. З «Сагі...» даведаемся, што вайну з Полацкам першы пачаў кіеўскі князь Яраслаў. Ён прыслаў Брачыславу патрабаванне ўступіць належныя яму землі. Але Брачыслаў апярэдзіў Яраслава і нанёс удар па Ноўгараду. Бліскучым па выніках трэба назваць гэты паход на Ноўгарад. Брачыслаў хутка сабраў моцнае войска, імкліва рушыў на Ноўгарад і ўзяў яго. Паводле польскага храніста Яна Длугаша, Брачыслаў авалодаў усім Наўгародскім княствам і паставіў у гарадах сваіх намеснікаў. Відавочна імкненне Брачыслава не проста падарваць магутнасць суседняга княства, а пазбавіць яго палітычнай незалежнасці і поўнасцю далучыць да Полацкай зямлі. У Ноўгарадзе Брачыслаў таксама пакінуў свайго намесніка і з вялікім палонам выступіў у Полацк. На рацэ Судоме палачан сустрэў з войскам кіеўскі князь Яраслаў. Адбылася бітва, і перамог Яраслаў. Быў заключаны мір. Брачыслаў вызваліў наўгародскія княствы, а Яраслаў узамен перадаў Полацкай зямлі гарады Віцебск і Усвят — важныя цэнтры на гандлёвых шляхах. Аднак «Сага...» маўчыць пра бітву. Паводле яе, варагі з Эмундам падпільнавалі і захапілі ў палон Яраслававу жонку Інігеру. Таму Яраслаў, каб вызваліць яе, вымушаны быў пайсці на перамовы і ўступіць Віцебск і Усвят. Звесткі «Сагі...» уяўляюцца нам больш праўдзівымі за летапісныя. Не трэба забываць, што кіеўскія летапісцы маглі проста прыпісаць «перамогу» свайму князю. Падобнага роду фальсіфікацый шмат у летапісах.

Паход Брачыслава прынёс свае важныя вынікі. Полацкая зямля даходзіла да вярхоўяў Заходняй Дзвіны і Дняпра, што дазволіла палачанам кантраляваць гэты ключавы адрэзак вялікага гандлёвага шляху «з вараг у грэкі», г. зн. з краін Скандынавіі ў Візантыю. Нельга адмаўляць сцвярджэнне сагі, што Яраслаў уступіў Брачыславу кіеўскі пасад. З летапісаў вядома, што Яраслаў нейкі час жыў у Ноўгарадзе і кіраваў Кіевам праз сваіх намеснікаў. Верагодна, на Русі ўсталяваўся дуамірат. Брачыслаў правіў у Кіеве. На гэта можа ўказваць згода Брачыслава быць з Яраславам «знадзін», а таксама наяўнасць у Кіеве «двара Брачыслаўля». Пэўна, не доўга праседзеў Брачыслаў у Кіеве і вярнуўся ў Полацк. Інтарэсы Бацькаўшчыны былі вышэй за палітычныя амбіцыі і хвіліннае задавальненне самалюбства.

Пры Брачыславе Полацкая зямля афармляецца як самастойная, незалежная дзяржава. Магчыма, Брачыслаў пашырыў яе межы на паўночны захад. У гэтым накірунку знаходзім шэраг населеных пунктаў, якія носяць ягонае імя (а значыць, ён заснаваў іх). Перш за ўсё гэта горад Брачыслаўль (Браслаў), возера Сівер, Браслаў (Абрэнскі раён у Латвіі), Браслаў у 20 км на поўнач ад Оршы.

І што самае важнае, у час праўлення Брачыслава (1001—1044 гады), Полацкая зямля не спазнала варожых нашэсцяў — рэдкі перыяд у гісторыі старажытнай Беларусі. І за гэта Брачыслава можна назваць Вялікім, бо самая вялікая заслуга ўладара перад народам — захаванне міру і спакою на роднай зямлі.

**(Працяг. Пачатак у №134).**

## УСЯСЛАЎ БРАЦЫСЛАВІЧ (?—1101) ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ПОЛАЦКІ ВЯЛІКІ КНЯЗЬ КІЕЎСКІ



Сучаснікі ў жаданні хоць неяк растлумачыць незвычайны лёс гэтага чалавека, таямнічасць і легендарнасць яго асобы, ягоную бурлівую дзейнасць, бліскучыя перамогі далучылі Усяслава да чарадзеяў і вешчуноў. Нават лічылася, што нарадзіўся ён ад чараў-»волхвования». Верылі, што можа князь абярнуцца ў ваўка, тура, сокала, як герой быліннага эпасу волат Вальга. Ды і пра яго самога складалі быліны. Невядомы аўтар геніяльнага «Слова пра паход Ігаравы» натхнёна апеў полацкага князя:

*Усяслаў-князь людзям чыніў суды.*
*Радзіў князям гарады,*
*А сам уночы ваўком рыскаў,*
*З Кіева паспяваў да пеўняў*
*да Тмутараканя,*
*Хорсу вялікаму шлях перацінаў.*
*Яму ў Полацку пазвоняць Ютрань рана*
*У званы святое Сафіі.*
*А ён той звон чуе ў Кіеве.*
*Хоць і вешчую меў душу ў дзёрзкім целе,*
*Ды часта ад бедаў цярпеў ён.**

Ад перамогі да паражэння, ад узлёту да падзення, ад велічы да прыніжэння, ад міру да вайны — вось так усё жыццё. Каб захавалася летапіснае жыціе Усяслава можна ўявіць, якое захапляльнае гэта было б чытанне. Але якія б выпрабаванні ні выпадалі на долю Усяслава, якія б беды ні спазнаў, ён усё роўна быў верным сваёй Бацькаўшчыне. За яе веліч і свабоду жыў і змагаўся Усяслаў. Стаўшы маладым на чале Полацкай зямлі, цаглінка за цаглінкай будаваў ён сваю дзяржаву. І як сімвал яе паставіў у Полацку Сафійскі сабор — заявіў пра роўнасць з Ноўгарадам і Кіевам. А калі Усяслаў пасталеў, дык адчуў сваю сілу і падняў меч вайны. Вырашыў ажыццявіць бацькоўскую мару — далучыць Наўгародскую зямлю да Полацка. У 1067 годзе полацкая дружына на чале з Усяславам узяла Ноўгарад. У знак падначалення Ноўгарада зняў ён з Сафійскага сабора званы і перавёз іх у Полацк. У адказ усе паўднёварускія князі рушылі на Полацкую зямлю і расправіліся з Менскам: мужчын забілі, жанчын і дзяцей захапілі ў палон, а горад спалілі. Усяслаў спазніўся на дапамогу і сустрэў ворага на рацэ Нямізе, непадалёку ад Менска. З сакавіка 1067 года адбылася буйнейшая бітва тых гадоў. Аўтар «Слова» напіша:

*На Нямізе галовы сцелюць снапамі,*
*малоцяць цапамі,*
*жыццё кладуць на таку злюцела,*
*веюць душу ад цела.*
*Нямігі, крывавыя берагі*
*не збожжам былі засеяны зноў —*
*засеяны косцьмі рускіх сыноў.*

Кіеўскі летапіс прыпісаў перамогу сынам Яраслава — паўднёварускім князям. Але, дзіўная рэч, «пераможцы» пасля бітвы паспешліва адступілі з Полацкай зямлі. Поле бою засталася за Усяславым, а па традыцыі лічылася: хто застаўся «стаяць на касцях» — той і пераможца. Усяслаў засланіў сваю Бацькаўшчыну ад варожай навалы, выратаваў крыўскія гарады і сёлы ад агню і мяча. Зразумеўшы, што Усяслава зброяй не пераможаш, Яраславічы скарысталі аблудлівасць і хлусню. Яны паклікалі Усяслава на перамовы і, парушыўшы крыжовае цалаванне, паланілі яго разам з двума сынамі. Усяслава прывезлі ў Кіеў і кінулі яго ў няволю. Амаль год прасядзеў Усяслаў у порубе. У гэты час на Русь напалі полаўцы. Яраславічы былі разбіты. Супраць кіеўскага князя Ізяслава ўспыхнула паўстанне. Напужаны Усяслаў уцёк з Кіева. Усяслава пад вітальныя крыкі кіяне вызвалілі з няволі і абвясцілі вялікім князем кіеўскім. Вось такі лёс. Не думаў, не гадаў учарашні вязень, што ўзнясецца ён па волі народнай на самы верх улады.

Сем месяцаў кіраваў Усяслаў Руссю. І ў звоне кіеўскай Сафіі чуў звон сваёй — полацкай. Не прамяняў ён Бацькаўшчыну на высокі пасад рускага ўладара. І пры першай жа магчымасці вярнуўся ў Полацк. І пачаліся годы барацьбы. Ізяслаў з польскім войскам выгнаў Усяслава з Полацка. Чаго толькі не здарылася за гэтыя годы з Усяславам. І быў разбіты ноўгародцамі, і трапіў да іх у палон, і вызваліўся, і зноў узняў меч, каб вызваліць Бацькаўшчыну ад варожага панавання, і, нарэшце, у 1071 годзе пераможцам уехаў у сталіцу сваёй дзяржавы. Але не магла змірыцца Русь са свабодай Полацкай зямлі. Новыя раці ішлі на Крывію. Кіеўскі князь Усевалад у 1077 годзе паспрабаваў захапіць Полацк. Усяслаў адбіў наступ ворага. Наступным годам усе вайсковыя сілы Русі, наўгародская, кіеўская, чарнігаўская, смаленская дружыны і палавецкая арда падышлі да Полацка. Усяслаў і на гэты раз абараніў сваю сталіцу. У гневе заваёўнікі разрабавалі Полацкія прадмесці і знішчылі горад Одрск. Помсцячы за спусташэнне сваёй зямлі, Усяслаў захапіў Смаленск. Чарнігаўскі князь Уладзімір Манамах за гэта «пожег землю, довоевав до Лукомля и до Логожска, та на Дрютск воюя». У 1084 годзе ён нападзе на адноўлены Менск і спаліць яго. Але скарыць Усяслава, заваяваць Полацкую зямлю Русь не змагла. І калі на Любецкім з'ездзе ў 1097 годзе сабраліся рускія князі, каб падзяліць паміж сабой Русь, Усяслаў, як уладар незалежнай дзяржавы, праігнараваў гэтую дзяльбу*.

Апошнія гады жыцця Усяслаў пражыў у міры. Суседзі асцерагаліся нападаць на полацкія землі, каб не выклікаць яго помсты. На гэтыя гады прыпадае росквіт магутнасці Полацкага княства, яго ўлада распаўсюджваецца на Ніжняе Падзвінне аж да Балтыйскага мора — на Земігалію, Лівонію, Летонію, Літву.

Цікавыя звесткі пра Усяслава былі ў архіве Менскай епархіі, якія пададзены ў кнізе «Воспоминания о древнем провославии Западной Руси» (1867 г.) Паводле іх, Усяслаў пабудаваў цвержу пры ўпадзенні ракі Нямігі ў Свіслач, на тым месцы, дзе калісьці адбылася славутая бітва. Адсюль і пачаў расці новы горад, які назвалі па імені спаленага на рацэ Менцы Менска. Такім чынам, Усяслава можна лічыць заснавальнікам Менска — сталіцы сённяшняй Рэспублікі Беларусь. Ён жа заснаваў у горадзе Узнясенскі манастыр, дзе жыў легендарны паэт Баян, які казаў Усяславу: «Ни хитру, ни горазду, ни тацю горазду суда божага не минути!..»

У 1101 годзе Усяслаў памёр. Летапісец дакладна адзначыў і дзень (14 красавіка), і час (9 гадзін), калі вялікі сын Полаччыны адышоў у бессмяроцце.

* *Пераклад Рыгора БАРАДУЛІНА.*

## ГЛЕБ УСЯСЛАВАВІЧ (?—1119) КНЯЗЬ МЕНСКІ



Ён мог зрабіць шмат. Але мэты, якія князь Глеб ставіў перад сабою, былі яму не пад сілу, і жыццё ягонае закончылася не ў славе, не ў велічы здзейсненага, а на чужыне, у няволі.

У 1104 годзе вялікі князь полацкі Барыс выгнаў з Менска свайго брата Давыда, які праводзіў сепаратную палітыку на саюз з Кіевам, а на месца яго пасадзіў Глеба Усяславіча. Давід, знайшоўшы падтрымку ў рускіх князёў, павёў іх войска на Менскае княства. Дзесяць месяцаў прастаяла рускае войска каля Менска — унікальная па сваёй працягласці аблога ў гісторыі старажытнай Русі. Глеб і менчукі адстаялі свой горад.

А 1106 менскі князь удзельнічае ў паходзе полацкай дружыны на Земігалію, які закончыўся сакрушальным паражэннем палачан. Гэтым можна растлумачыць тое, што Глеб на доўгі час знік з палітычнай арэны. І вось праз дзесяць гадоў, у 1116 годзе Глеб пачаў вайну супраць Русі за збіранне крыўскіх і дрыгавіцкіх зямель. Яму ўдалося адабраць у смаленскага княства Оршу і Капыль — важныя пункты на шляху «з вараг у грэкі», а пасля захапіць Слуцк. Кіеўскі князь Уладзімір Манамах арганізаваў у 1116 годзе шырокамаштабны наступ на Менскае княства. Усе вайсковыя сілы Русі былі кінуты ў быт. Русы захапілі Оршу і Друцк і разрабавалі гэтыя гарады. Аднак доўгая аблога Менска закончылася няўдачай. Уладзімір Манамах вымушаны быў заключыць з Глебам мір. Ад сваёй задумы аб'яднаць вакол Менска крыўскія і дрыгавіцкія землі Глеб не адмовіўся. І зноў ён пачынае вайну супраць Русі, напаўшы на Наўгародскае і Смаленскае княствы. На гэты раз ён дзейнічае ў саюзе з палачанамі. Разгневаны Уладзімір Манамах вырашыў раз і назаўсёды пакончыць з ваяўнічым менскім князем. У 1119 годзе ён паслаў на Менск войска. Горад паў перад заваёўнікамі і быў далучаны да Русі. А Глеба ўзялі ў палон. Неўзабаве, 13 верасня 1119 года, ён памёр. Такая заўчасная смерць наводзіць на думку, што «праблему Глеба» пры кіеўскім двары вырашылі проста — менскага князя атруцілі.

**Вітаўт ЧАРОПКА.**

**(Працяг будзе).**

# РАСКЛАД РУХУ АЎТОБУСАЎ З АЎТАВАКЗАЛА «ЦЭНТРАЛЬНЫ» (Мінск)

| Маршрут | Адлегласць (км) | Час адпраўлення з Мінска | Час прыбыцця на канцавую станцыю | Час адпраўлення з канцавой станцыі | Час прыбыцця ў Мінск |
|---|---|---|---|---|---|
| Аргелаўшчына | 116 | (7-30 с), (14-00 н) | (10-30с), (17-07 н) | (11-30 с), (18-00 н) | (14-37 с), (21-07 н) |
| Баранавічы | 202 | (18-20 п с н), 18-00, 14-00 | 23-20 20-00, 16-00 | 11-00, (14-00 н), 6-50, (8-00 акрамя н) | 16-00, 16-00, 8-50, 10-00 |
| Капыль–Бабоўня | 132 | 7-10 | 10-40 | 12-10 | 15-40 |
| Сан. «Баравое» | 183 | (8-20 п с н) | 12-57 | (14-30 п с н) | 19-10 |
| Быстрыца | | | 19-40 п с н | 23-14 | 6-00 п с н 6-35 пн аўт сер ч 9-34 10-10 |
| Веркалы | 84 | 13-10 с н 18-00 п | 15-41 с н 20-26 | 16-10 с н 20-35 | 18-47 с н 22-37 |
| Ілья-Вілейка | 129 | 16-40 п с н пн | 20-21 | 7-30 п с н пн | 11-17 |
| Вільнюс | 214 188 | 10-00, 12-30, 8-00, (1-30 акрамя пн аўт) | 15-40, 16-00, 12-21, 5-30, 5-40 | 16-20, 12-50, 14-40, (17-30 акрамя пн аўт) | 22-00, 16-20, 18-51, 21-30 |
| Вішнева–Дзесятнікі | 109 | 15-10, (7-10 с) | 18-12, 9-52 | з Валожына (10-20 с) 7-40 | 13-02, 10-35 |
| Валожын | 78 | 7-40, 14-20, 17-40, 19-00, (18-10 п) 12-40, 10-20 | 9-44, 16-24, 19-44, 20-55, (20-58), 14-44, 12-38 | 10-50, 17-50, 13-50 15-45, 14-35, 6-00, 8-00 | 12-54, 19-54, 15-54, 17-40, 17-33 8-04, 10-18 |
| Воранава | 217 | (12-00 п с н пн) | (17-11 п с н пн) | 5-30 | 10-36 |
| Жыліхава | 153 | 17-00 | 21-16 | 10-00 | 14-36 |
| Гарнастайлава | 137 | 18-20 | 22-02 | 6-35 | 10-34 |
| Ліда–Гродна | 293 | 8-10, 13-20 | 13-59, 18-59 | 15-25, 20-05 | 20-59, 1-34 |
| Ліда–Гродна (экспрэс) | 293 | 17-00, 17-50, 18-20, 19-00, (19-40 п н) | 22-14, 22-55, 23-29 0-09, (0-54) | 6-55, 7-40, 9-40, 13-05, (12-50 п н са Шчучына) | 12-05, 12-50, 14-50, 18-15, (16-47) |
| Гродна з Баранавіч | 374 | 15-00 | 23-33 | 13-00 | 21-43 |
| Шчучын–Гродна | 293 | 6-10, 7-20, 10-50 | 11-34, 12-42, 16-22 | 14-30, 16-05, 19-10 | 19-45, 21-25, 0-22 |
| Астрына–Гродна | 313 | 14-50 | 21-00 | 5-30 | 11-40 |
| Гродна (тр. з Гомеля) | 621 | 16-30 | 21-45 | 9-40 | 15-51 |
| Гродна (тр. з Магілёва) | 488 | 11-46 | 17-20 | 7-05 | 11-21 |
| Дзяржынава | 81 | 10-00 с н | 12-13 с н | 13-30 с н | 15-43 с н |
| Дзятлава | 186 | 7-50, 18-00 | 12-08, 22-26 | 14-20, 11-05 | 18-38, 15-31 |
| Дзятлава | 234 | 9-20 с | 13-42 с | 16-45 с | 21-12 с |
| Яўсеевічы | 112 | (12-30 п с н), 18-50 | (15-30 п с н), 21-48 | (16-30 п с н), 6-35 | (19-52 п с н), 9-47 |
| Калінінград | 532 | (21-00 сер п н) | 9-43 | (20-30 ч с пн) | 9-15 |
| Івянец | 66 | (7-50 с), 15-20 (18-40 п с н) | (9-54), 17-17 (20-37 п с н) | (10-15 с), (6-30 с н пн) (18-45 п с н) | (12-27 с н), 20-42 (8-27 с н пн) |
| Каўнас | 293 | 7-20, 17-00 | 14-10, 23-15 | 8-00, 17-00 | 14-15, 23-25 |
| Івянец–Клецішча | 115 | 9-00 с н 17-30 п | 12-31 с н 20-49 п | 14-40 с н 21-20 п | 18-20 с н 0-20 п |
| Клецк | 140 | 11-20 | 14-42 | 5-50 | 9-12 |
| Бабоўня–Капыль | 137 | 14-20, (15-40 п с н) (10-00 пн) | 17-50, 18-51, 12-45 | 19-00, (10-20 п н), 6-00 | 22-48, 13-21, 8-47 |
| Н. Сяло–Карэлічы | 147 | 14-20 н 17-30 п н | 21-46 н 21-42 п н | 14-00 н 13-40 п н | 17-56 н 16-28 п н |
| Лукі–Карэлічы | 152 | 16-40 п н | 20-47 | 8-00 п н | 12-19 |
| Кукавічы | 143 | (6-40 с), (13-20 н) | (10-20 с), (17-00 н) | (10-50 с), (17-40 н) | (14-00 с), (21-20 н) |
| Углы | 77 | 11-00, 14-30 да Углы | 13-19, 16-57 | 14-40, 8-17 | 17-12, 10-55 |
| Ліда | 178 | 14-00, (20-20 п с н) | 17-15, (23-05 п с н) | 6-10, (15-00 п с н) | 9-25, (17-45 п с н) |
| Ліда | 188 | 15-20 | 19-15 | 7-50 | 11-35 |
| Бакшты–Ліда | 188 | 10-40, акрамя н | 14-08, акрамя н | 7-50, акрамя н | 11-18, акрамя н |
| Стоўбцы–Ліда | 205 | 15-50 | 21-12 | 6-20 | 11-42 |
| Любча | 159 | 8-30 | 12-48 | 15-20 | 19-41 |
| Навагрудак–Любча | 175 | 17-00 п с н | 21-30 | 8-10 п с н | 12-40 |
| Літва | 82 | 7-20, акрамя с н | 10-02, акрамя с н | 11-32, акрамя с н | 14-22, акрамя с н |
| Моладава | 348 | 12-50 | 21-36 | 7-00 | 15-46 |
| Мядзел праз «Зубраня» | 188 | 13-40 | 18-30 | 6-20 | 11-23 |
| Нарач тр. з Салігорска | 172 | 10-30 с н | 14-35 | 6-35 | 10-02 |
| Масты | 280 | (17-30 п н) | 0-10 | 8-30 | 15-11 |
| Нарач праз «Зубраня» | 172 | 7-40, 11-20 | 11-49, 15-35 | 13-30, 16-40 | 17-43, 20-55 |
| Нарач | 168 | 12-40, (18-30 п н) | 17-03, (22-49) | 6-20, (13-00 п н) | 10-43, (17-16 п н) |
| Навагрудак (тр. з Магілёва) | 356 | 21-25 | 0-29 | 17-05 | 20-45 |
| Навагрудак | 153 | 11-20, 13-40, 18-30 | 15-05, 16-57, 21-47 | 17-00, 7-30, 11-30 | 20-45, 10-47, 14-50 |
| Навагрудак праз Любчу | 192 | 15-00 (20-00 ч п с н) | 20-06 0-59 | 6-40 (12-00 ч п с н) | 11-53 17-09 |
| Навагрудак праз Машэвічы | | 16-10 п с н | 20-35 | 10-20 п с н | 14-35 |
| Астравец праз Крэва | 158 | 16-30 п с н пн | 20-24 | 9-50 п с н пн | 13-44 |
| Ашмяны | 133 | 10-30 с пн | 13-30 с пн | 6-30 с пн | 9-30 с пн |
| Ашмяны | 133 | (18-30 п н) | (21-30 п н) | (13-30 п н) | (16-30 п н) |
| Клайпеда–Паланга | 544 | 19-10 | 6-00 | 23-40 | 10-20 |
| Паставы | 207 | 7-20, 9-00, 14-30, 17-50 | 11-56, 14-06, 19-39, 22-54 | 13-20, 16-50, 7-00, 10-10 | 18-00, 21-41, 12-09, 15-19 |
| Пяцкуны | 146 | (8-10 с н) | 12-50 | (13-55 с н) | 18-35 |
| Рыга праз Вільнюс | 487 | 8-20 | 18-05 | 8-10 | 18-00 |
| Рубяжэвічы | 93 | (7-20 с н), 17-10 -Літва-2 | (10-19 с н), 19-12 | (11-00 с н), 6-30 | (14-22 с н), 9-22 |
| Ружаны | 245 | (14-30 п с н) | (19-48 п с н) | (6-20 п с н) | (11-33 п с н) |
| Свіслач праз Слонім | 304 | 16-30 | 0-40 | 5-40 | 14-09 |
| Свір праз Мядзел | 201 | 15-30 16-50 | 20-56 22-16 | 6-20 8-10 | 11-52 13-41 |
| Свіцязь | 169 | 6-40 | 10-36 | 14-00 | 17-56 |
| Слонім | 203 | (11-10 п с н) | (15-11 п с н) | (16-05 п с н) | (20-02 п с н) |
| Столін | 379 | 8-20 | 16-50 | 11-45 | 20-15 |
| Трабы | 134 | (8-10 акрамя с н) | 12-00 | (14-20 акрамя с н) | 18-10 |
| Траянава | 136 | 17-40 п с н ч | 21-16 | 7-45 п с н | 11-57 |
| Цімкавічы | 128 | 12-00, 15-40 аўт сер ч | 15-11 п с н 18-56 | 15-10 п с н | 18-21 п с н |
| Цырын | 150 | 18-10 | 22-20 | 6-15 | 10-52 |
| Шчучын | 248 | 16-10 | 22-05 | 5-30 | 11-27 |
| Грудзенск | | (14-15 сер) | | | |
| Беласток | | 21-00, 23-00, 21-30 | 3-00, 7-20 | 20-00, 20-00 | 4-10, 5-20 |
| Барысаў–Гродна | | 10-10 | 15-24 | 8-10 | 9-55 |
| Гродна–Барысаў | | 22-24 | 17-00 | | |

***Заўвага.*** *Пн, аўт, ср, чц, п, с, н – панядзелак, аўторак, серада, чацвер, пятніца, субота, нядзеля.*



Ніна ЗАХАРЭВІЧ

## Замова пра «Звязду»

*Пераможцай прызналі мяне па замовах,*
*Пахвалюся: сабрала я многа ўжо новых,*
*А цяпер вось адну тут для ўсіх прывяду*
*Пра цудоўную нашу газету «Звязду».*

*Пад сузор'ем Ільва нарадзілася*
*У суровым вірлівым сямнаццатым*
*На зямлі ты «Звязда», засвяцілася,*
*Каб табе і далей красавацца так.*

*Як на досвітку я прачынаюся,*
*Дык малюся над роднай газетаю,*
*Да сузор'я Ільва ўслых звяртаюся:*
*— Не забудзься ты, Леў, пра падшэфную.*

*Журналістаў пашлі ў рэдакцыю,*
*У каторых дыпломы з адзнакаю,*
*І што хуткую маюць рэакцыю,*
*Не глядзяць на жыццё абыякава.*

*Што хлусіць не ўмеюць ніколечкі,*
*Іх навіны ў газету не позняцца*
*Лечаць людзям заганы і болечкі,*
*Ці багатым, ці бедным без розніцы.*

*Каб выходзіць «Звязда» не ленілася,*
*Гаварыла заўжды роднай моваю,*
*З мяккім знакам зашмат не раднілася,*
*І для вёскі была каляровою.*

*Каб паднесла якую цукерачку*
*Нам усім, чытачам, і дармовую:*
*Анекдот ці красворд, ці прыпевачку,*
*Падарыла ўсмешку вясёлую.*

*Каб ёй спонсары не пападаліся*
*На прыбыткі і грошыкі скваплівыя,*
*А каб моцна ў «Звязду» закахаліся,*
*І каб далі паперу бясплатную.*

*Каб свята ад «Звязды» не зміншалася,*
*Ёй не быць на газетным марыніку,*
*А яшчэ каб яна размнажалася,*
*Каб займела найболей прыхільнікаў.*

*Каб замову надзейнай памоцнай зрабіць,*
*Каб заўсёды з газетай любімаю быць,*
*Раз у квартал нашу кожны год*
*Тысяч сорак, рублёў восемсот.*

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Жыхарка амерыканскага горада Пасадзіна Кейлін Бейкер прагульвалася па вуліцы разам са сваім парсючком, якога звалі Цюльпанам, калі была затрымана паліцыяй за парушэнне правілаў утрымання хатніх жывёл, якіх трэба выводзіць на ланцужку. Аднак пракуратура, уважліва вывучыўшы закон, вырашыла не ўзбуджаць судовай справы: у законе яна сказана, што на ланцужку трэба выгульваць сабак, а пра свіней размова не ідзе. Значыць, уладальніца Цюльпана можа гуляць па горадзе са сваім выхаванцам дзе ёй захочацца.

**Рэйтэр**

Трус па мянушцы Бетховен тры гады жыў у доме фермера з амерыканскага штата Арэгон, а потым гаспадар выпусціў яго на волю. Але братоктрус настолькі прызвычаіўся да камфорту, што лічыць за лепшае рухацца па сядзібе, асядлаўшы адну з лам, якіх разводзіць фермер.

**Асашыэйтэд Прэс**

Ці могуць дыпламаты мець дадатковую працу ў той краіне, дзе знаходзяцца? Могуць, вырашылі супрацоўнікі філіпінскай дыпмісіі ў Кувейце. І выбралі для сябе... сутэнёрства. Адзін з членаў палаты прадстаўнікоў кангрэса Філіпін паведаміў, што ў яго ёсць паказанні сведак-філіпінак, якія сталі ахвярамі «дыпламатычнага звадніцтва». Калі філіпінкі звярталіся па дапамогу ў пасольства, то паслужлівыя дыпламаты з шырокімі сувязямі з мясцовай плацежаздольнай публікай прапаноўвалі ім папраўіць свае грашовыя справы гандлем целам. Зразумела, за адпаведную аплату «паслуг».

**ІТАР-ТАСС**

ЕЩЦЕ НА ЗДАРОЎЕ!

## КОЖНЫ КУЛЬТУРНЫ ЧАЛАВЕК ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ ЗАКОНЫ ХАРЧАВАННЯ, ТАМУ ШТО ЯНЫ СТВОРАНЫ ПРЫРОДАЙ, НЕПАХІСНЫЯ І АБЫСЦІ ІХ БЕЗ ШКОДЫ ДЛЯ СВАЙГО ЗДАРОЎЯ НЕМАГЧЫМА

Інтэрв`ю-перасцярога

**Наша размова з урачом-дыетолагам Іванам СІНЕЛЬНІКАВЫМ пачалася з пытання, як суадносіцца звычайнае жыццёвае ўяўленне аб харчаванні з навуковым.**

— Бабуль як прыклад «сапраўднай мудрасці» ў харчаванні адразу адкінем: менавіта яны вінаваты ў перакормліванні дзяцей— стараюцца падкладваць больш смачны кавалачак. А дзецям цяпер неабходна іншае— фізічная актыўнасць. Іх губіць «сядзячы» рэжым— падрыхтоўка ўрокаў, школа, потым музычная або мастацкая школа ... Малярухомы спосаб жыцця.

**— Але арганізм і ў гэтым становішчы траціць энергію.**

— Так, і яе трэба папаўняць. Арганізм павінен атрымліваць харчовыя рэчывы, якія ў ім не сінтэзуюцца. Гэта і бялок, у тым ліку абавязкова жывёльны, і вітаміны. Для любога арганізма неабходны алей, маянэз. Добрыя крыніцы поліненасычаных тлустых кіслот — усе гатункі маргарыну, асабліва «Дыетычны», «Здароўе», «Сонечны», — яны прыгатаваны з улікам самых сучасных патрабаванняў навукі, але ў народзе непапулярныя. Гэта вынік няправільна сфарміраванага ўяўлення аб каштоўнасці прадуктаў.

**— Але, пагадзіцеся, наша культура харчавання складваецца стыхійна, ад той прапановы, што на прылаўках магазінаў?**

— Не зусім так. Напрыклад, усе ведаюць: агароднiна, садавіна— гэта вітаміны. Але зусім не абавязкова ганяцца за авакада, апельсінамі, бананамі, манга. У салодкім перцы ў 4-5 разоў больш таго ж вітаміну С, чым у лімонах або апельсінах. Вось вам няправільная ацэнка людзьмі якасці харчовага прадукту.

А наша пераяданне? Гэта таксама элемент бескультур`я. Урачы пастаянна гавораць: уставайце з-за стала крыху галоднымі, пачакайце хвілін 20 — і адчуеце насычанасць. Мы ж устаём з-за стала, асабліва святочнага, перапоўненыя ежай, а потым пакутуем ад нястраўнасці.

Кожны культурны чалавек павінен ведаць законы харчавання, таму што яны створаны прыродай, непахісныя і абысці іх без шкоды для свайго здароўя немагчыма.

Дык вось, першы з іх— закон адпаведнасці энергетычнай каштоўнасці рацыёну энергазатратам арганізма. Адхіленне ў адзін бок— знясіленне, зніжэнне працаздольнасці. Адхіленне ў другі— паўната, атлусценне і як вынік — атэрасклероз, ішэмічная хвароба сэрца, інфаркт, інсульт.

Чаму ў нас палова людзей мае празмерную вагу, а чвэрць пакутуе ад атлусцення? Часткова з-за таго, што парушыць закон вельмі лёгка. «Кошт» аднаго піражнага ў кілакалорыях прыкладна 500. Каб растраціць гэтую энергію, трэба гадзіну бегаць трушком. Адно марожанае— паўгадзіны такога бегу. Кожны дзень лішніх 200—500 кілакалорый— гэта за год 6-7 кілаграмаў лішняй вагі ў выглядзе тлушчавых адкладанняў.

Але нельга рабіць так, як некаторыя,— яны становяцца рабамі дыет— падлічваюць кожную кілакалорыю, кожны грам ежы. Гэтыя людзі выключаны з жыцця, працы, яны займаюцца толькі сабой.

Трэба трымацца ідэальнай сярэдзіны, г. зн. захоўваць баланс. Як навучыцца сябе абмяжоўваць? Воля, воля і яшчэ раз воля.

Цяжэй з другім законам— адпаведнасці хімічнага саставу рацыёну фізіялагічнай неабходнасці ў харчовых рэчывах. Нам патрэбны не пустыя кілакалорыі, а пэўныя амінакіслоты, састаўныя часткі бялкоў, вітаміны, ліпіды і многае іншае— усяго прыкладна семдзесят кампанентаў, якія мы называем эсенцыяльнымі, або незаменнымі, таму што яны не сінтэзуюцца ў нашым арганізме. На шчасце, прырода сама паклапацілася пра нас: пры ўмове даволі звычайнага, але разнастайнага харчавання, мы практычна атрымліваем усе кампаненты ў неабходнай колькасці.

Рацыён салдата царскай арміі быў разлічаны на 8000 кілакалорый. У дзень належала больш за кілаграм чорнага хлеба— вось вам неабходная колькасць і бялку, і вугляводаў, і вітамінаў групы В. Калі салдат з`ядаў два разы на дзень кіслай ці свежай капусты, то ён атрымліваў дастаткова вітаміну С. А з грэцкіх круп— неабходную колькасць жалеза.

А мы з вамі, седзячы за пісьмовым сталом, павінны траціць не больш як 2500—2600 кілакалорый. І ў гэты «малы рацыён» трэба ўмудрыцца ўціснуць тую ж колькасць амінакіслот, вітаміны і ўсё астатняе. І прырода тут ужо не памочніца. Яна не можа так сканцэнтраваць неабходныя нам рэчывы. І самі сабе мы не дапамагаем. Мы цяпер любім не чорны хлеб, а белы (так званыя ачышчаныя гатункі), кіслая капуста таксама не задавальняе, а яны давалі і неабходны аб`ём, і неабходныя рэчывы. Мы ядзім на некалькі соцень калорый, але па аб`ёму— менш чым талерка капусты, і значыць, каб ежа мела дастатковую масу, з`ядаем шмат. Змагацца з празмернай шчыльнасцю харчовага рацыёну нам павінна дапамагчы прамысловасць — стварыўшы прадукты малой каларыйнасці, але высокай біялагічнай каштоўнасці. Пакуль такіх прадуктаў у нас няма, хоць яны вядомы і ў многіх развітых краінах іх вытворчасць наладжана.

Напрыклад, карыснае абястлушчанае малако. Асабліва каштоўны жывёльны бялок. А тлушч нам не патрэбны! Але мне тут жа запярэчаць: «Ды хто яго будзе піць? Яно сінюшнага колеру, вадзяністае на смак. Няхай мне будзе дрэнна, але я буду піць тлустае малако». На самай справе— чаму энергетычна нізкі прадукт павінен быць дрэнным на смак? Мне даводзілася паспытаць у некаторых краінах абястлушчанае малако— яно нават смачнейшае.

Мы любім мяса, каўбасу, але каўбаса цяпер ператварылася ў тлушчавы прадукт. Нават калі чуеш у магазіне: «Мне вось гэту, без тлушчу»,— то і яна ўтрымлівае 30 працэнтаў тлушчу па вазе! З`еў 100 грамаў такой каўбасы — значыць з`еў 30 грамаў тлушчу, а гэта 270 кілакалорый, зноў паўгадзіны бегу трушком.

А між іншым, у самых фешэнебельных заходніх рэстаранах на стале стаяць морква, радыска, усё гэта прыгожа нарэзана, і наведвальнікі ў чаканні заказу пачынаюць з агароднiннай закускі. Я яшчэ раз нагадваю— у самых дарагіх рэстаранах. А ў простых ці студэнцкіх сталовых тая ж страва, але з капусным або салатным лістом. Паліў цэлы ліст алеем (зноў-такі карысна!) і сядзіш, чынна жуеш, чакаеш свой заказ. Вось дзе набягаюць тыя 20 хвілін! Потым з`еў крыху першага, другога — і ты ўжо наеўся, таму што і аб`ём атрыманы (за кошт капусты), і часу прайшло даволі многа.

Вучыце дзяцей есці марудна, старанна перажоўваць, не размаўляць за сталом, але рабіце гэта цікава, захапляюча.

Але галоўнае, паўтараю,— гэта стварэнне прадуктаў з паніжанай энергетычнай каштоўнасцю. Напрыклад, бляшанка з-пад кока-колы, усё тое ж самае— і смак, і колер, і пах. Але тут напісана: «Прадукт без цукру, сахарыну, солі». Няма рэчываў, якія могуць аказаць шкоднае ўздзеянне на арганізм, а ёсць замены́к цукру «нутрасвіт», які ў 200 разоў саладзейшы за цукар, і дае той жа смак. Вы п`яце той жа напой, але атрымліваеце толькі дзве кілакалорыі.

**— Значыць, папрок у нашай празмернай вазе мы павінны ў першую чаргу адрасаваць харчовай прамысловасці?**

— І сабе. Навука гатова прапанаваць рэцэпты прыгатавання такіх прадуктаў, а прамысловасць абавязана забяспечыць іх неабходную колькасць.

# З «пякельным кактэйлем» можна змагацца

Эфект «пякельнага кактэйля» ўнутры чалавека (радыенукліды + солі цяжкіх металаў + поліхларыраваныя біфенілы + нітраты і нітрыты + пестыцыды + ядахімікаты + харчовыя дабаўкі і г. д.) — не проста арыфметычная сума. Кожная з іх непрадказальна ўзмацняе згубнае ўздзеянне адзін на аднаго. Вучоным не пад сілу пакуль прадказаць вынік іх сумесных дзеянняў. Як навука эндаэкалогія яшчэ вельмі маладая. Родапачальнік эндаэкалогіі і лімфалогіі Ю. Левін лічыць адным з «падручных» метадаў узмацненне руху вадкасці ў тканках, што забяспечыць чысціню клетак, вымыванне і вынас у лімфавузлы і ныркі назапашаных забруджвальнікаў унутранага асяроддзя.

Гэтаму вельмі садзейнічаюць настоі і адвары маладога лісця чорных парэчак, хвашчу палявога, салаты з маладога лісця крапівы, адвар лісця брусніччніку, падбелу (чэрвень-ліпень), адвар кукурузных рыльцаў у перыяд паспявання пачаткаў, лісця трыпутніку (ліпень-чэрвень), шыпшына. Вельмі добры адвар цэльнага аўса з мёдам — дарэчы, добры ён і тым, што дапамагае кінуць курыць. Дзяўчатам, дзяўчынкам і жанчынам рэкамендуецца для падтрымання «ў спраўнасці» рэпрадуктыўнай сферы выпіваць раніцай нашча і на ноч адвары шалфею (з аптэк): 1 чайная лыжка на шклянку, настойваць 40 хвілін. Гэта нядрэнная прафілактыка розных мастапатый, міом і г. д. А адвар шалфею з чаем, сухацветам і рамонкамі, карой крушыны трэба прывучыцца піць раніцай усім жанчынам, якія працуюць з камп'ютэрам. Ім жа ў час тэхнічных перапынкаў трэба з'есці ці банан, ці яблык, а лепш за ўсё прыносіць з сабой на працу цёртую моркву з неачышчаным алеем.

Расце на Беларусі ўсюды блюшчык плюшчападобны (руская назва «будра плющевидная»). Кветкі яго (канец мая-чэрвень) і лісце ўтрымліваюць флавакаіды (антцыяны), якія звязваюць ядавітыя солі цяжкіх металаў і выводзяць іх праз ныркі. Яшчэ ў 1963 годзе па рэкамендацыі Ленінградскага санітарна-гігіенічнага інстытута імя Эрысмана адвары блюшчыка давалі як прафесіянальны антыдот рабочым лакафарбавай і нафтахімічнай прамысловасці. Сок з кветак і лісця блюшчыка плюшчападобнага пры стабілізацыі 12-градусным спіртам этылавым па 30,0 х 3 разы ў дзень цудоўна выводзіць радыенукліды. Праз 10 дзён ЛІЧ (лічыльнік імпульсаў чалавека) ужо паказваў норму — даныя санкт-пецярбургскіх радыёлагаў і гігіеністаў (1993 год). Шмат разоў я прапаноўваў выкарыстоўваць экстракт блюшчыка для прахаладжальных напояў, піва, дабаўляць у марожанае.

Наша краіна напоўнена прамысловымі прадпрыемствамі, асабліва хімічнымі, плюс чарнобыльская бяда, плюс нерацыянальнае выкарыстанне ядахімікатаў, пестыцыдаў, мінеральных угнаенняў. У гэтых умовах пытанні харчавання набываюць першараднае значэнне, калі ўлічыць, што большасць дзяцей «сядзіць» на абмежаваным харчовым рацыёне — хлеб, цукар, бульба, сала, у дэфіцыце жывёльныя бялкі, асабліва марская рыба, морапрадукты (марская капуста, крыльпаста, агароднiна). Будзем спадзявацца, што з паглыбленнем інтэграцыі з брацкай Расіяй, яе рэгіёнамі (Калінінградская, Мурманская, Архангельская вобласці, Далёкі Усход) — марская рыба і морапрадукты будуць даступныя нашым дзецям. Багатыя ёдам філе траскі, марскі акунь, селядзец, скумбрыя, марская капуста паляпшаюць дзейнасць шчытападобнай залозы.

Харчаванне дзяцей у нас павінна быць антыалергічнае. Гэта значыць трэба абмяжоўваць у першую чаргу кухонную соль, цукар. Імунітэт у большасці дзяцей зніжаны. Трэба памятаць, што «ключавымі» для імунітэту з'яўляюцца вітаміны $B^6$. Е, С, мікраэлементы цынк і медзь. Цынку вельмі многа ў гароху, чорнай фасолі, свежым малацэ, асабліва казіным, у цвёрдых гатунках сыру, у любой зеляніне (агароднiне). Даказана, што вітамін С на 100 працэнтаў лепш засвойваецца на фоне прадуктаў, багатых меддзю: бурак, фасоля, гарох, арэхі розныя, семкі з гарбуза, яечны жаўток, жытні хлеб, пятрушка, адвар святаянніку, грыбы, рыба з «белым мясам» (карп, лешч, мянтуз, шчупак). Каб фасоля і гарох лепш і хутчэй разварыліся, трэба ў ваду дабаўляць алей і пры гатаванні некалькі разоў даліваць у кіпячую ваду ледзяную ваду з-пад крана.

Агульны прынцып харчавання і дзяцей і дарослых: у дзённым рацыёне павінне быць не больш за 30 працэнтаў жывёльнага тлушчу. Аддаваць перавагу трэба розным відам алею, агароднiне, садавіне, грубаму нерафінаванаму харчу, аўсу, сoi, чорнаму хлебу. Памятайце, што пры вырабе белай мукі губляецца вітаміну $B^1$ — 70 працэнтаў, $B^2$ — 67 працэнтаў, $B^3$ — 90 працэнтаў. Палова мінеральных солей, магнію і марганцу. Дарэчы, недахват магнію ў рацыёне выклікае частую змену настрою з перавагай суму і трывогі, узмацняе цягу да нікаціну і алкаголю, вядзе да парушэнняў рытму сэрца, застойным з'явам ў жоўцевыдзяляльнай сістэме.

Дыетолагі ЗША вялікае значэнне надаюць халіну — вітамінападобнаму рэчыву, якое прадухіляе атлусценне печані, што мае кардынальнае значэнне для арганізма ў цэлым. Вельмі шмат халіну ў селядцах ціхаакеанскіх, філе траскі, затым — соя, авёс, ячмень. Пра сою кажуць, што гэта паўнацэннае «расліннае мяса», у ёй знаходзіцца ўвесь набор незаменных бялковых амінакіслот. 90 працэнтаў немаўлят у ЗША вырастаюць на асаблівым «соевым малацэ».

Мала хто ведае аб антывітамінах. Гэтыя рэчывы ці разбураюць вітаміны, ці ўкараняюцца замест іх, але не «працуюць». Просты прыклад — свежыя агуркі. Вось вы змяшалі ў салаце свежыя памідоры і агуркі. Праз 15—20 хвілін агуркі пускаюць сок з аскарбаксідазай — ферментам, які адразу разбурае вітамін С у памідорах. Гэта ўжо безвітамінны салат, так што агуркі асобна, памідоры — асобна.

Дзецям неабходна штодзённа ўводзіць у арганізм для звязвання радыенуклідаў прадукты, багатыя сераўтрымліваючымі амінакіслотамі і солямі кальцыю (тварог, малако, ёгурт, ражанка, кефір, бабовыя), а таксама пекцінаўтрымліваючыя неасветленыя сокі (яблыкі, слівы, морква). Вельмі карысная салата з карзінак сланечніку з тапінамбурам і алеем. Адвары кветак грэчкі папярэджваюць і лечаць пачатковыя стадыі лейкеміі. Кветкі бульбоўніку і сланечніку маюць прафілактычнае значэнне ў анкалогіі.

Тварог лепш засвойваецца не чысты, а з жытняй мукой — сырнікі. Для падтрымання імунітэту дзецям трэба даваць у невялікай колькасці нутраны свіны тлушч (здор), багаты, як і семкі з гарбуза, простагландынамі і лікаленавай кіслатой. Здор добра засвойваецца нават пры гепатытах і папярэджвае лішні распад бялку ў тканках і плазме.

Недаацэньваюць бацькі ячную і прасяную кашы, якія ўтрымліваюць спектр мікраэлементаў. Такім чынам, ячныя крупы (як і ялавічнае сэрца і персікі) утрымліваюць вялікую колькасць мікраэлемента хром, які мае выключную ролю ў захаванні пастаянства саставу крыві, осмасу, тэмпературы.

Для звязвання радыенуклідаў, якія паступілі ў кішэчнік, вельмі карысныя жоўцевыя кіслоты. Салаты з алеем, алахол, сарбіт валодаюць выражаным жоўцягонным дзеяннем, асабліва часнок. Дарэчы, ён утрымлівае вельмі карысны антыаксідант сялен — лепшы радыепратэктар.

Вялікую ролю ў паглынанні радыенуклідаў іграюць і солі кальцыю, гэта ж датычыцца і стронцыю. Даказана, што ў аўсе і пшаніцы ўтрымліваецца фіцінавая кіслата, якая перашкаджае засваенню кальцыю з харчовых прадуктаў. Таму аўсяную і прасяную кашу лепш запіваць сокам, але не малаком, таму што кальцый з малака з аўсом і просам засвойваецца горш. Грэцкая каша з малаком засвойваецца ў 2 разы лепш, чым і ячневая і рысавая.

Папярэджу бацькоў: не налягайце асабліва на мяса — дыета з высокім утрыманнем жывёльнага бялку і фосфару садзейнічае ўзмоцненаму выдаленню кальцыю з арганізма — ломкасці касцей і іншым негатыўным з'явам.

**Генадзь МЯЦЕЛЬСКІ,**
**урач-дыетолаг.**

# Крыніца небяспекі — марская рыба!

**Марская рыба на стале ў сухапутнага беларуса — з'ява не вельмі частая, тым больш, што з некаторага часу цэны на яе не толькі зраўнаваліся з цэнамі на мяса, але сям-там і пераўзышлі іх. Але тым не менш часам мы дазваляем сабе гэтую «раскошу».**

**Таму хацелася б папярэдзіць аматараў рыбных страў аб небяспецы, якая іх падпільноўвае.**

У сувязі з нестабільнай эпідэміялагічнай сітуацыяй па вострых кішэчных захворваннях Мінскім гарадскім цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі (МГЦГЭ) праводзілася рэйдавая праверка арганізацыі гандлю рыбай з яе выбарачным гельмінталагічным даследаваннем. У выніку праведзеных лабараторных даследаванняў у 46 працэнтах з 89 адабраных проб у марской рыбы былі выяўлены лічынкавыя формы гельмінтаў, што належаць да катэгорыі небяспечных для чалавека і выклікаюць у яго кішэчныя расстройствы, прычым у палове гэтых проб яны прысутнічалі ў жыццяздольным стане, што яшчэ больш павялічвае рызыку захворвання. Практычна ва ўсіх вышэйназваных выпадках правяраючым былі прадстаўлены дакументы, якія гарантуюць спажыўцу якасць прадукцыі, аднак вынікі гельмінталагічнай ацэнкі туды ўносіліся не заўсёды. Такая небяспечная прадукцыя выяўлялася на Камароўскім і Чыжоўскім рынках сталіцы, магазінах «Нептун», «Зарына», «Талін», «Віцебск», «Таір», універсаме «Рыга» і многіх іншых.

У разрад забракаваных трапілі селядцы, мінтай, акунь, салака, хек, траска, сайга. Але больш прычын для апасення ўяўляе скумбрыя, таму што ёсць шмат аматараў паласавацца яе засоленай тушкай. А між тым, як паведамілі ў аддзеле гігіены харчавання МГЦГЭ, рыба, якая не прайшла цеплавой апрацоўкі, уяўляе сур'ёзную небяспеку. Тэмпературны рэжым нашых халадзільнікаў не можа забіць гэтых паразітаў так, як гэта дазваляюць халадзільныя камеры і тэхналагічныя працэсы засолкі на прадпрыемствах. Таму ў хатніх умовах лепш не рызыкаваць з засолкай, а проста падсмажыць ці адварыць рыбу, чаго дастаткова, каб выключыць усялякую рызыку.

На сённяшні дзень, згодна з пастановай галоўнага санітарнага ўрача г. Мінска В.М. Чаянава, на тэрыторыі горада забаронена рэалізацыя рыбы, якая не прайшла паразіталагічнай экспертызы. Дарэчы, калі вы засумняваліся ў якасці купленай вамі рыбкі, можаце звярнуцца ў паразіталагічную лабараторыю МГЦГЭ па вул. Пляханава, 18, каб развеяць свае апасенні і паласавацца вашай любімай стравай.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# «СЛАВЯНСКІ БАЗАР» АБЯЦАЕ СТАЦЬ ГРАНДЫЁЗНЫМ СВЯТАМ. КАЛІ ЗНОЙДУЦЦА ГРОШЫ

## *З 11 па 17 ліпеня ў Віцебску пройдзе 5-ы Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар-96»*

Вось ужо пяцігоддзе мацуе еднасць братніх народаў віцебскі «Славянскі базар», але кожны год яго арганізатары вымушаны ледзь не з пачатку пачынаць, даказваючы... патрэбнасць гэтага свята. Ніхто быццам і не супраць. Летась, напрыклад, угледзеўшы вялікі сэнс акцыі, на адкрыццё прыбыў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка і заявіў аб сваім патранажы фестывалю. Аднак і сёння яго дырэкцыя ў розных інстанцыях даказвае і пераконвае, дабіваючыся абяцанай падтрымкі. Між тым, час ідзе, а мяркуемага пералічэння 200—250 тысяч долараў або іх эквіваленту няма, і ніхто не ведае, калі будзе. Паўтараецца мінулае. Пазалетась грошы з Мінска паступілі за два тыдні да цырымоніі адкрыцця, летась — праз два дні пасля яе. А ўкраінскі бок да гэтага часу не пагасіў усёй запазычанасці. Дзякуй, Расія строга прытрымліваецца абавязацельстваў сузаснавальніка.

Віцэ-прэзідэнт «Славянскага базара» Радыён Бас гутарыў са мной шчыра. Пачаў з просьбы, адрасаванай прэсе.

— Добра было б, — гаворыць Радыён Бас, — каб газеты рэспублікі змясцілі эмблему «Славянскага базара» — васілёк. Тады яго хутчэй заўважаць магчымыя рэкламадаўцы. І побач з васільком ва ўсім славянскім свеце ўбачаць на тэлеэкранах рэкламу іх прадукцыі...

Дзеля таго, каб атрымаць вольны эфір, свята на гэты раз перамясцілася ў часе на тыдзень і паспее прайсці да пачатку Алімпійскіх гульняў у Атланце.

Пяты, можна сказаць, юбілейны, фестываль стане яшчэ больш захапляльным і ўсёабдымным, збярэ шмат зорак. З 11 па 17 ліпеня Віцебск стане адначасова сталіцай славянскай песні, кіно, харавых спеваў, гумару, фальклору, фларыстыкі, дзіцячай творчасці. І гэта далёка не поўны пералік таго, што чакае гледача. Білеты ўжо прадаюцца, і іх ахвотна бяруць.

Радыён Міхайлавіч каменціруе праграму. Сёлета прадстаўніцтва краін — удзельніц пашыраецца, на конкурс маладых выканаўцаў упершыню прышлюць сваіх спевакоў славянскія дыяспары з Францыі, Германіі, Ізраіля, Фінляндыі, Бельгіі. Сваім удзелам свята ўпрыгожаць Іосіф Кабзон, Ірына Алеграва, Алег Газманаў, Валерый Сюткін, Леанід Агуцін, Вахтанг Кікабідзе, Азіза, групы «На-на», «Фрыстайл», ансамблі «Песняры», «Верасы», «Сябры»... Юбілейны вечар, прысвечаны 50-годдзю творчай дзейнасці Людмілы Зыкінай, збярэ і прыхільнікаў харавых спеваў, і сцэнічнага танца, якія змогуць пачуць і пабачыць ансамблі «Бярозка», «Расія», «Руская песня», «Валынскі хор», кубанцаў.

Госцем на «Славянскім базары» будзе «Кінатаўр» з яго натхняльнікам і арганізатарам Маркам Рудзінштэйнам, з Таццянай Догілевай, Зінаідай Кірыенка, Яўгенам Мацвеевым, Нонай Мардзюковай, Аляксандрам Панкратавым-Чорным, Алегам Янкоўскім...

Жаданне наведаць Віцебск выказаў французскі кампазітар і акцёр Макніл Дэвід, які мае дачыненне да сям'і знакамітага Марка Шагала.

З'явай абяцаюць стаць вернісаж мастака Нікаса Сафронава з Масквы, вечар рускага рамансу, на які запрашаюць Сяргей Захараў і Валянціна Панамарова, шоу цэнтра Ігара Мацвіенкі ў саставе груп «Люба», «Любэ» і «Іванушкі-інтэрнэшнл».

Выдатным заключным акордам стане ноч гумару. На святло «Залатога Астапа» зляцяцца Яфім Шыфрын, Сямён Альтаў, Клара Новікава, Аляксандр Шырвінт, Міхаіл Дзяржавін, Андрэй Максімкаў, Андрэй Ургант, Аляксандр Маслякоў у суправаджэнні «Адэскіх джэнтльменаў» і днепрапятроўскай каманды КВН. Плануецца і правядзенне міжнароднага конкурсу «Славянская прыгажуня-96» (калі знойдуцца спонсары для гэтага шоу).

Так што застаецца толькі пажадаць, каб гаспадары, а імі з'яўляюцца ўсе беларусы, былі дастойна прадстаўлены на гэтым свяце. Вялікай гатоўнасці пакуль што не бачна.

**Паліна АЛЯКСАНДРАВА.**

# БЕЛАРУСКІЯ ЛІЦЭІСТЫ ПЕРАМАГЛІ, ПАКІНУЎШЫ ЗЗАДУ КАМАНДЫ ВАСЬМІ ЕЎРАПЕЙСКІХ КРАІН

**Зборная беларускіх школьнікаў прыняла ўдзел у міжнароднай канферэнцыі навучэнцаў у Венгрыі.**

На працягу сямі дзён юнакі і дзяўчаты з Беларусі, Венгрыі, Галандыі, Грэцыі, Грузіі, Расіі, Румыніі, Украіны і Югаславіі чыталі даклады па чатырох секцыях — па фізіцы, інфарматыцы, матэматыцы і экалогіі. Рабочай мовай канферэнцыі была англійская.

Уступаючы месца іншым камандам па колькасці прачытаных дакладаў, беларусы ўсё ж атрымалі перамогу па прычыне высокага ўзроўню падрыхтаваных работ.

Мяркуйце самі: па секцыі інфарматыкі дыплом II ступені атрымаў Іван Міхневіч (ліцэй пры БДУ), сярод матэматыкаў дыпломам I ступені ўзнагароджаны Юліян Ванне (Магілёўскі абласны ліцэй), першымі сталі такама фізік Аляксандр Цэлабенак (ліцэй пры БДУ) і эколаг Юлія Вішнеўская (СШ № 56 Гомеля).

**Андрэй ЛАЎРЫНЕНКА.**



# ШАХМАТЫ

*Пад рэдакцыяй майстра спорту У. СЫЧОВА*

**ГАДАВЫ КОНКУРС СКЛАДАННЯ**

**Заданне № 7**

**В. Іваноў** *(Мінск)*




**Белыя**: Kpe8, Фf1, Лg4, Лh3, Ce6, Ch6, Ka3, Kf3; пп: b2, e4, f2 (11).

**Чорныя**: Kpd3, Ле2, Cg3, Kb3, Kc1; пп: c5, d2, d5 (8).

Мат за два хады

**Заданне № 8**

**В. Іваноў** *(Мінск)*




**Белыя**: Kph6, Фh1, Лb7, Ле3, Cb4, Ke1; пп: a6, e5, g3 (9).

**Чорныя**: Kpc6, Лd5, Kd2; c4, d3 (5).

Мат за 3 хады.

**«АЛЬБОМ ФІДЕ 1992—1994»**

Аб'яўлены рэгламент чарговага «Альбома», які падводзіць вынікі работы складальнікаў усяго свету за трохгоддзе. Кампазіцыі (у 5 экземплярах) павінны дасылацца ў адрас дырэктараў адпаведных раздзелаў не пазней 1 верасня 1996 г. Пры гэтым памер ліста адпавядае фармату А5 (155х210 мм), а дыяграма — надрукавана або намалявана. Неабходна ўказаць поўнае імя аўтара, адрас, месца публікацыі, атрыманы водгук і рашэнне. **Рускія** прозвішчы, імёна і адрасы ўказваць **прапіснымі** літарамі або ў лацінскай транскрыпцыі.

Дырэктары раздзелаў просяць таксама ўказваць не толькі часопіс, у якім была публікацыя, але і яго дату і нумар кампазіцыі. Калі кампазіцыя праверана на камп'ютэры, то трэба прывесці сімвал «Со» або «С+».

**Прыводзім адрасы дырэктараў.**

**Двухходоўкі**: Kauko Virtanen, Valimaenkuja 3 D20, FIN-33430, Vuorentausta, Finland.

**Трохходоўкі:** Piet le Grand, Spiegelstraat 87, NL-7552 MZ Hendelo, Nederland.

**Шматходоўкі:** Albert Koldijk, Johfan de Wittaan 14, NL-9601 AV Hoogezand, Nederland.

**Эцюды:** John Roycroft6 17 New Way Road, London NW 6PL6 England.

**Задачы на зваротны мат:** Paul Valois, 14 Newton Park Drive, Leeds LS7 4HH, England.

**Задачы на каапературыўны мат:** Anders, Uddgren, Abborrvagen 14, S-66340, Hammaro, Schweden.

**Казачныя шахматы:** Kjell Widlert, Asogatan 109, 6tr6 S-11829 Stockholm, Schweden.

**Рэтрааналіз:** Wolfgang Dittman, Stanzer Zeile 26, D-12209 Berlin 45, Deutschland.

**ШАХМАТНАЯ НАВІНКА**

Вышла ў свет кніга А. Максімоўскіх «250 шахматных мініяцюр» (112 стфр., 150 задач і эцюдаў — аўтара, 100 эцюдаў іншых складальнікаў). Заяўкі — на адрас аўтара: 641744, Курганская вобл., Далматаўскі раён, с. Загайнава, вул. Савецкая, д. 4.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 11 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

**9.00** «Кобра».
**9.50** Абібок.
**10.20** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма.
**10.35** «Кропка, кропка, коска...» Маст. фільм.
**11.55** «Домік для ўсіх». Мультфільм.
**12.10** «Тысячагоддзе». Маст. фільм (Англія).
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей (ЗША).
**15.40** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей.
**16.05** «Асляня-агароднік». Мультфільм.
**16.20** «Экамір-96». «Горад, які дзіка вырас». Дак. фільм (Фінляндыя).
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Лясныя казкі». Мультфільм.
**18.15** «Будзьце здаровы».
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Кобра».
**20.00** «Гомель-96». Вынікі тэлефестывалю, прысвечанага 10-годдзю чарнобыльскай катастрофы (паўтор).
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.10** Яўген Мацвееў і Галіна Польскіх у маст. фільме «Кахаць па-руску».
**23.35** «Куфэрак», «Насланнё». Мультфільмы для дарослых.
**24.00** Навіны.

**ГРТ**

**8.15** «Сакрэт трапіканкі».
**9.05** «Вяртанне да вытокаў». Паломніцтва ў Булгары.
**9.45** Смехапанарама.
**10.15** «Бяздомны кангурджа». Мультфільм.
**10.30** «Адгадай мелодыю».
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак».
**14.20** «Рыцар Смелае Сэрца».
**14.45** Квар'етэ «Вясёлая кампанія».
**14.55** Мультытролія.
**15.10** Чароўны свет, ці Сінема.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** «Сем дзён спорту».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю».
**19.00** Тэма.
**19.45** «Добрай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** Прэзідэнцкія выбары-96.
**21.10** Улада і слава: Мікалай Другі. Фільм «Выратавальная ахвяра».
**23.20** Футбол. Зборная Турцыі—зборная Харватыі.

**Канал «Расія»**

**9.10--10.20** «Санта-Барбара».
**13.50** Каляндар.
**14.00** Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя.
**15.00, 16.20** Хакей. Кубак Стэнлі.
**17.15** Вас запрашае тэлечасопіс «Здароўе».
**17.25** Прасцей простага.
**17.55** Нічога, акрамя...
**18.10** Галасуй, ці прайграеш.
**18.25** Футбол. Зборная Італіі—зборная Расіі. У перапынку — Весткі.
**20.35** Адзін дзень з Юрыем Лужковым.
**21.05** Надвор'е.
**21.30** «Санта-Барбара».
**22.25** Ціхі дом. Праграма С. Шолахава.
**23.20** «Савецкая жанчына». Дак. фільм цыкла «Час вялікіх падманаў».
**0.15** Гарачая дзесятка.
**1.10--1.23** «Музыка ўсіх пакаленняў». Скэтмэн Джон.

**«Расійскія універсітэты»**

**10.00** Антрэ-соль.
**10.30, 13.30, 16.45** СІВ. Навіны.
**10.40** «Я ўжо пры жыцці перамог...» Анатоль Жыгулін.
**11.10** Масква. Стагоддзе цяперашняе і стагоддзе мінулае. «Любыя цені Арбата».
**11.25** «Пяць хвілін».
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.00** Педагогіка для ўсіх.
**12.30** Чалавек у рыначнай эканоміцы.
**13.00** «Скарбы народнай творчасці». Фільм 2-і. «Усходнія славяне».
**13.25** Мультфільм.
**13.35** «Грэх». Маст. фільм.
**14.55** «Стагоддзе Рускага музея». Перадача 4-я.
**15.10** «Уражанні». Дак. фільм.
**15.20** Лексікон гісторыі культуры.
**15.50** Выбары-96.
**16.00** Музычныя навіны.
**16.15** «Муззон».

**НТБ**

**17.00** «Сямейка Флінстоўн». 46-я серыя.
**17.30** Жаночыя гісторыі. «Дэзл». 2-я серыя.
**18.00, 21.00, 23.00** «Сёння».
**18.35** Герой дня.
**19.00** Маст. фільм «Золата партыі».
**20.35** Голас народа.
**21.35** «Доктар Куін, жанчына-ўрач». 72-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** Спартыўныя танцы.
**23.50** Меламанія: «Рой Орбісан і яго сябры».

**Санкт-Пецярбург**

**12.05—12.55** «Першае каханне». Серыял.
**14.10** «Спякота ў Акапулька». Серыял.
**15.05** Авертайм.
**15.20** «Без назвы». Гумарыстычная праграма.
**15.50** Стыль жыцця.
**16.05** «Прыгоды двух медзведзянятаў». 2-я серыя.
**16.30** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў.
**16.55** Спартыўны агляд.
**17.05** Толькі без панікі.
**17.30, 18.00** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.35** Вялікі фестываль.
**19.05** «Першае каханне». Серыял.
**20.05** «Выбіраем прэзідэнта». А.-Г.-М. Тулееў.
**20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**21.00** Спорт.
**21.10** «Спякота ў Акапулька». Серыял.
**22.05** «На ноч гледзячы». Забаўляльная праграма.
**22.20** Платная палітычная рэклама. В. А. Брынцалаў.
**22.45** «Скон». Маст. фільм. 2-я серыя.
**24.00—1.00** Галасуй, ці прайграеш.



Згубленае пасведчанне аб праве на льготы № 226334 серыі А, выдадзенае на імя ПОЛІВЯНОК Аляксандра Іванавіча, лічыць НЕСАПРАЎДНЫМ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносін — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; агляд\альнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2882.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12